



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

22 мая 2020 года №21 (1308)

18+


# 600 жыхароў навучылі клапаціцца пра здароўе

**Падчас навучальнага мерапрыемства ў вёсцы Лылойці Жодзішкаўскага сельсавета Смаргонскага раёна ўдзельнікі вучыліся правільна карыстацца танометрам.**

старонкі 20-21

Фота забяспечанае Святланай БУРКО.

**Каранавірус дабраўся да Свіра**

старонка 2



**У Валожыне сталым людзям, што знаходзяцца на самаізаляцыі, дасылаюць лісты падтрымкі і насенне кветак**

старонка 5

**Школьніца з Лыцавічаў стала абсалютнай пераможцай на нацыянальнай алімпіядзе па фізічнай культуры**

старонка 8

ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# «Два метры! Не падыходзьце бліжэй»

## Што адбываецца ў Свіры, куды прыйшоў каранавірус

**Апошнія дні з'яўляліся паведамленні, што ў Свіры захварэлі на каранавірус работнікі з псіханеўралагічнага дома-інтэрната, некаторыя з іх памерлі. Карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» праверылі, што адбываецца ў Свіры і што пра сітуацыю кажуць мясцовыя жыхары.**




Па словах супрацоўніка, у інтэрнаце хварэе каля 20% работнікаў.

### З чаго ўсё пачалося

14 мая стала вядома, што два супрацоўнікі Свірскага псіханеўралагічнага інтэрната памерлі, у аднаго быў нібыта пацверджаны тэст на COVID-19.

15 мая з'явілася інфармацыя са спасылкай на дырэктара інтэрната **Казіміра Русака**, што ва ўстанове зафіксавалі 32 выпадкі каранавіруснай інфекцыі. Першы выпадак зарэгістравалі 30 красавіка.

### «Хварэе дзесьці 20% супрацоўнікаў»

Па дарозе ў Свірскі псіханеўралагічны дом-інтэрнат едзе машына «хуткай дапамогі». Яна ўязджае ў вароты ўстановы, каля якіх стаяць мужчыны ў масках і без іх. На паркоўцы ля інтэрната – мужчына ў супрацьчумным касцюме, з маскай.

**– Не падыходзьце да мяне! Вось два метры, не падыходзьце бліжэй.**

Мужчына ў ахоўным белым касцюме прадставіўся санітарам інтэрната **Сяргеем Андрэевым**. Ён адразу сказаў, што ва ўстанове ніякіх праблем няма, хоць і хварэюць супрацоўнікі.

– У нас хварэе дзесьці 20%. Усяго працуе чалавек 100. Але ўсё добра, усяго хапае. Паглядзіце на мяне – рэспіратары, касцюмы, вадкасці.

Сяргей жыве ў Свіры. Ён кажа, што суседзі не баяцца таго, што ён працуе ў інтэрнаце, у якім зафіксавалі выпадкі COVID-19.

Дырэктар інтэрната Казімір Русак у тэлефоннай размове з карэспандэнтам сказаў, што з апошніх камэнтароў прэсе нічога не змянілася і яму няма чаго дадаць.

### Што кажуць мясцовыя

Мясцовыя жыхары ў Свіры неахвотна пагаджаюцца размаўляць. Усе ведаюць, што ў інтэрнаце ў супрацоўнікаў знайшлі каранавірус. Ведаюць і тых, хто памёр, па іх словах, са станоўчым вынікам на COVID-19.

62-гадовы В. Я. працаваў у доме-інтэрнаце. Па словах яго родных, у даведцы пазначаная каранавірусная інфекцыя. В.Я. жыў у Свіры, але мясцовыя жыхары кажуць, што дома наўрад ці хто ёсць. Жонка таксама працавала ў інтэрнаце, а цяпер ляжыць у бальніцы.



Большасць людзей у Свіры ходзяць у масках.

Фота Настасі УТКІНАЙ.

Большасць мясцовых жыхароў ходзяць па вуліцы ў масках, але некаторыя абыходзяцца без іх. У крамах прадаўцы ў масках і пальчатках. Пра сітуацыю ў псіханеўралагічным інтэрнаце яны чулі, але больш нічога сказаць не змаглі.

– Ведаеце, я многа працую і пакуль гаварыць не буду. Я на працоўным месцы. Бачыла, што пішуць. Ці даўно ў нас такая сітуацыя? Не ведаю.

Супрацоўніца адной з крамаў пацікавілася, з якога выдання прыехалі журналісты ў Свір.

– З «Рэгіянальнай газеты»? Малайцы, што прыехалі.

Але ўсё роўна не стала нічога расказваць, параіла пагаварыць з кім-небудзь іншым.

### «Хавалі ў закрытай труне»

Каля адной крамы з роварамі стаяць двое мужчынаў. Яны таксама чулі пра свірскую сітуацыю з каранавірусам. Адзін з іх працуе ў ЖКГ, кожны дзень дэзінфіцыруе памяшканні ў Свіры, Камарове і псіханеўралагічным доме-інтэрнаце.

– Чытаў, што ў нас быццам ёсць. Езджу і апырскваю толькі пад'езды двухпавярховак ад ЖКГ. Кожны дзень дэзінфіцырую, ад 8 да 17. У Свіры сем дамоў, тры ў Камарове і дом-інтэрнат. Усё апырскваю за адзін дзень.

**Мужчына кажа, што дэзінфекцыю пачалі рабіць напрыканцы красавіка. Першы раз быў прыкладна 21 красавіка.**

– У мяне касцюм, маска. Чулі, чатыры смерці ад каранавіруса тут. Хавалі ў закрытай труне. Нябожчыка ў дом не заносілі. Пакуль не страшна працаваць, хаця жонка маладая, двое дзяцей.

### Што кажуць улады

Каля Свірскага сельвыканкама амаль няма людзей. Заходзіць у будынак нельга – вісіць аб'ява з просьбай тэлефанаваць, калі ёсць пытанні да супрацоўнікаў мясцовага органа.

Старшыні Свірскага сельвыканкама **Валянціны Субач** на месцы не аказалася. Яна была ў ад'ездзе. Жанчына паведаміла, што нічога не змагла б патлумачыць, нават калі б знаходзілася на месцы. Уся інфармацыя – у Мядзельскім райвыканкаме. Намеснік старшыні **Святлана Пісарчык** таксама не была на месцы, яна на бальнічным.

Намеснік старшыні райвыканкама па пытаннях сацыяльнай сферы і ідэалагічнай работы **Іна Барыева** ў тэлефоннай размове з карэспандэнтам «РГ» адказала, што ўся актуальная інфармацыя па каранавіруснай інфекцыі на Мядзельшчыне размяшчаецца ў інтэрнэце на сайце раённай газеты, а таксама на старонках гэтай газеты.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Настасся УТКІНА.**



Фота foodbevg.com.

Каб зберагчы пчол, апрацоўваць рапс ад шкодных насякомых нельга ў час цвіцення.

# Пчаляры хвалююцца за пчол

**Пчаляр паскардзіўся ў рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты», што з-за хімічнай апрацоўкі рапсу баіцца мору пчол.**

Чытач «РГ» і пчаляр **Аляксандр Раткевіч** піша, што некаторыя сельскія гаспадаркі пачынаюць хімічную апрацоўку ад насякомых, калі рапс уступае ў поўную стадыю цвіцення. І разам са шкоднымі для культуры насякомымі ў гэты час гінуць пчолы.

– У выніку летась з-за гэтага палова маіх пчолак загінула, – піша Раткевіч. – Патруцілі не толькі маіх пчол, але і ў дзікай прыродзе. У лясах, прылеглых да рапсавых палеткаў, дуплы зляснымі пчоламі апусцелі.

Аўтар піша, што спрабаваў пакараць вінаватых усё мінулае лета, але выніку не дабіўся. Пасля звароту ў Генеральную пракуратуру пакаралі штрафам галоўнага агранома гаспадаркі, адказнага за апрацоўку.

Каб пазбегнуць такой сітуацыі, апрацоўваць расліны варта ці ў фазе бутанізацыі, ці пасля цвіцення. Але, па словах Раткевіча, і сёлета гаспадарка апрацоўвае рапс падчас цвіцення.

### Як павінны апрацоўваць рапс

Правілы апрацоўкі рапсу рэгламентуюць Санітарныя нормы і правілы «Патрабаванні да прымянення, умоў перавозкі і захоўвання пестыцыдаў (сродкаў абароны раслін), аграхімікатаў і мінеральных угнаенняў».

Паводле дакумента, кіраўнікі работ павінны апавясціць за чатыры-пяць сутак насельніцтва, уласнікаў пчальнікоў бліжэйшых населеных пунктаў, на мяжы з якімі знаходзяцца палі пад апрацоўку. Абвясціць можна праз сродкі масавай камунікацыі, аб'явы ў населеных пунктах.

Каб не загінулі пчолы, апрацоўваць участкі варта ў позні час пасля папярэдняга апавяшчэння за чацвёра-пяцёра сутак, каб гаспадар пасекі вывез вуллі на адлегласць, не меншую за пяць кіламетраў.

### Чаму гэта важна

Праблема са змяншэннем колькасці пчол актуальная ва ўсім свеце. Гібель іх зніжае ўраджайнасць, а некаторыя культуры ўвогуле не могуць урадзіць без апылення.

З праблемай мору пчол летась сутыкнуліся ў Расіі. Вось як год таму сітуацыю пракаментаваў Аляксандр Лукашэнка:

– Рапс – гэта высокадаходная культура, вельмі рэнтабельная. Вы заўважылі, па Расіі шалёная гібель пчол у сувязі з тым, што пачалі высейваць у вялікай колькасці рапс і не ў час апрацоўваць хімічнымі прэпаратамі. Глядзіце, каб у нас гэтага не паўтарылася, таму што размова будзе вельмі кароткай.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Зрабілі 76 экспрэс-тэстаў, 29 з іх – адмоўныя. Як вызначаюць каранавірус

ВІЛЕЙКА

**Пра тое, якія бываюць тэсты на каранавірус, каму і як іх робяць у Вілейцы і ці можна па жаданні зрабіць тэст платна, расказала галоўны доктар Вілейскай ЦРБ Ірына Макарава.**

– На сёння на каранавірус мы абследуем двума спосабамі. Мазкі ПЛР (палімеразная ланцуговая рэакцыя) і экспрэс-тэсты. Першы спосаб – высокадакладны. Ён распазнае інфекцыю на розных стадыях. Тут можа быць толькі адзін з двух вынікаў: станоўчы або адмоўны. Гэта тыя тэсты, пра якія штодня ў справаздачах кажа Міністэрства аховы здароўя. Мінус гэтага метаду ў тым, што даследаванне можна праводзіць толькі ў лабараторыях. А іх не так шмат. Калі мы праводзім такія тэсты, то забіраем мазкі і вязём іх у лабараторыю ў Мінск. Паколькі такіх даследаванняў робіцца шмат, не заўсёды вынік прыходзіць хутка, – тлумачыць доктар.

Па словах Ірыны Паўлаўны, такія даследаванні робяць асобам, што кантактуюць з хворымі, напрыклад, медработнікам, а таксама кантактам першага ўзроўню. На дзясяты дзень мазок паўтараюць і вырашаюць, ці заканчваць самаізаляцыю, ці закрываць чалавеку бальнічны. Такіх забораў на 20 мая ў Вілейскай ЦРБ зрабілі 609.

Другі спосаб даследавання на каранавірус – экспрэс-тэсты. У сярэдзіне мая ў Вілейку іх прыйшло 160 штук. Такія тэсты патрэбныя, каб разгрузіць лабараторыі.

– Зручнасць у тым, што вынік тэста мы бачым на месцы. Яго не трэба нікуды везці. Гэты тэст вызначае імунаглабуліны. Імунаглабулін M кажа пра тое, што чалавек якраз у працэсе хваробы. Калі ж тэст вызначае імунаглабулін G, значыць, чалавек ужо перахварэў і ў яго з'явіўся кароткачасовы імунітэт. Тэст можа быць адмоўным, можа вызначаць імунаглабулін M, можа імунаглабулін G, а можа і M, і G адначасова, – кажа галоўны доктар.

Экспрэс-тэсты робяць кантактам першага ўзроўню на дзясяты дзень, каб зразумець, ці можна чалавеку закрываць бальнічны. Вельмі радка – хворым, што паступаюць з інфарктам ці інсультам, на ўваходзе ў стацыянар, калі ў іх незразумелыя сімптомы. У перспектыве экспрэс-тэсты ў Вілейцы, магчыма, будуць рабіць медыкам, якія працуюць з хворымі.

На 20 мая зрабілі 76 экспрэс-тэстаў. 29 з іх – адмоўныя. Астатнія – змешаныя. Па словах галоўнага доктара, платна рабіць экспрэс-тэст усім ахвотным пакуль адназначна не будуць. Толькі бясплатна і па паказаннях.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ЛІЧБА НУМАРА

**22 000**

**СТОЛЬКІ ГЕКТАРАЎ ЗАНЯЛА ПАСАДЖАНАЯ Ў БЕЛАРУСІ БУЛЬБА НА 15 МАЯ**

ПАВОДЛЕ BELSTAT.GOV.BY.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.05 | 21.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4463 | **2.4087** |
| Еўра | 2.6523 | **2.6365** |
| Злоты, 10 | 5.8119 | **5.8001** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3250 | **3.3319** |
| Грыўня, 100 | 9.1638 | **9.0541** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **13.05** | **20.05** |
| Еўра | 2.6000/2.6800 | **2.5900/2.6500** |
| Долар ЗША | 2.4000/2.4800 | **2.3700/2.4300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 13.05 | 20.05 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,06 | **23,06** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,60 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,20 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,80 | **16,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,20 | **1,85** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,30 | **1,35** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **1,79** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,90** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,85 | **1,85** |
| Агуркі, 1 кг | 3,20 | **2,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **1,70** |
| Капуста, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,30 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 4,50 | **6,90** |
| Радыс, пучок | 2,50 | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,70 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **6,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Бананы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **6,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Ківі, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Клубніцы, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Лімон, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Персікі, 1 кг | – | **10,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 19,00 | **15,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,80 | **2,99** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У Нарачы патанулі двое

МЯДЗЕЛ

18 мая ў аператыўна-дзяжурную службу Мядзельскага РАУС паступіла паведамленне з выратавальнай станцыі «Нарач».

Паведамлялі, што ў возеры Нарач паблізу вёскі Наносы патанулі двое мужчын: 23-гадовы жыхар Мінска і 61-гадовы мясцовы жыхар. Яшчэ аднаго, 51-гадовага мінчаніна, выратавалі.

Мужчыны выйшлі на возера Нарач для зняцця гідраэкалагічнай устаноўкі на лодцы «Днепр» вучэбна-навуковага цэнтра «Нарачанская біялагічная станцыя імя Вінберга» БДУ.

У 15:15 супрацоўнікі выратавальнай станцыі «Нарач» на адлегласці больш за два кіламетры ад берага знайшлі гэту затопленую лодку з бензінавым рухавікам. Насавая частка лодкі была на паверхні вады, за яе трымаўся чалавек. Мужчыну выратавалі і шпіталізавалі. Таксама дасталі з вады двух загінулых.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## Згарэла таксі

МАЛАДЗЕЧНА

– Я адчуў рэзкі пах бензіну ў салоне. Спыніўся. Адкрыў капот, а з-пад яго ўспыхнула полымя, – такое паведамленне атрымалі выратавальнікі Маладзечанскага ГРАНС ад кіроўцы таксі 15 мая каля паловы трэцяй гадзіны дня.

Здарэнне адбылося ў Вяжуцях, што ў Лебедзеўскім сельсавеце. Аўтамабіль быў новы, 2019 года выпуску. Агонь пашкодзіў маторны адсек і салон, паведамляюць у ГРАНС Маладзечна. Прычыну высвятляюць. Аўтамабіль належаў прыватнай кампаніі.

**МНС нагадвае:** як толькі вы адчулі пах бензіну, гарэлай гумы ў салоне, неадкладна спыніце машыну і высветліце прычыну. Калі з капота аўтамабіля пайшоў дым, выклікайце выратавальнікаў. Пачынайце тушыць самастойна, бо аўтамабіль можа цалкам згарэць на вашых вачах.

**Паслядоўнасць дзеянняў пры тушэнні аўтамабіля наступная:** трэба прыадчыніць капот і ў шчыліну ўставіць раструб вогнетушыцеля, збіць полымя. Толькі потым можна асцярожна адкрываць капот. Абясточчце аўтамабіль. Добра каб быў пяцілітровы парашковы вогнетушыцель.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гарэла кацельня ў Гервяцкай школе

АСТРАВЕЦ

12 мая каля сямі раніцы астравецкім выратавальнікам паведамілі пра пажар у Гервятах.

Гарэла кацельня на тэрыторыі Гервяцкай школы. Агонь знішчыў частку шыфернага даху плошчай дзесяць квадратных метраў. Пацярпелых няма. Прычыну высвятляюць.

**Паводле МНС.**

## Парушыў самаізаляцыю тры разы і атрымаў штраф амаль 2700 рублёў

Пра маладзечанца, які парушае самаізаляцыю, мы пісалі раней. Тады парушальнік атрымаў штраф у 810 рублёў. Ён выйшаў пакурыць на двор.

Аднак пасля гэтага мужчына зноў парушаў ізаляцыю. І цяпер штраф ужо – 2 677,5 рубля.

Нагадваем, што за парушэнне самаізаляцыі чалавека прыцягваюць да адказнасці па артыкуле 23.4 КаАП Рэспублікі Беларусь: «Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў».

Парушэнне цягне накладанне штрафу ў памеры ад двух да пяцідзесяці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

– Усе маладзечанцы, хто павінны быць на самаізаляцыі, сумленна выконваюць яе. Толькі гэты мужчына парушае, – кажа афіцыйны прадстаўнік РАУС Маладзечна **Юлія Крук.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У закінутым будынку знайшлі мёртвага мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта карэспандэнту расказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Па яе словах, цела 36-гадовага маладзечанца ў закінутым будынку знайшлі 18 мая. Следчыя высвятляюць абставіны смерці мужчыны. Прызначылі судова-медыцынскую экспертызу. Па яе выніках установяць дакладную прычыну смерці. З этычных меркаванняў падабрзнасці не раскрываюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Хлеў, з якога прахожы выратаваў жанчыну.

# На Замкавай вуліцы гарэў закінуты хлеў

## Прахожы выцягнуў з яго жанчыну

МАЛАДЗЕЧНА

**18 мая ў 10:00 на нумар 101 Маладзечанскага ГРАНС паступіла паведамленне аб пажары на Замкавай. У службу выратавання патэлефанаваў мужчына, які ўбачыў дым.**

Калі выратавальнікі прыбылі да месца выкліку, на вуліцы Замкавай гарэла адкрытым полымем драўляная гаспадарчая пабудова. У выніку пажару хлеў згарэў цалкам. У ім не было электрычнасці.

Хлеў быў на балансе УП «Камунальнік». Будынак не эксплуатаваўся, планаваўся пад знос. Але да прыбыцця выратавальнікаў прахожы, які ўбачыў дым, падбег да хлява і выцягнуў адтуль 60-гадовую жанчыну.

Пенсіянерку шпіталізавалі ў Маладзечанскую ЦРБ з дыягназам «Атручэнне прадуктамі гарэння, тэрмічны апёк левага сцягна 2-й ступені, 4 працэнты цела». Стан сярэдняй ступені цяжкасці, распавялі ў Маладзечанскім ГРАНС.

**МНС папярэджвае**: прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары **101** або **112** і не забывайце ўказваць адрас і месца пажару.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аднагадовы хлопчык праглынуў заручальны пярсцёнак

АСТРАВЕЦ

Днямі аднагадовы хлопчык з Астравецкага раёна гуляў з заручальным пярсцёнкам і на вачах маці праглынуў яго. Гэты іншародны прадмет затрымаўся ў яго ў страўніку. На дапамогу дзіцяці прыйшлі медыкі Гродзенскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы.

Як распавёў загадчык эндаскапічнага кабінета медустановы **Дзмітры Крывецкі**, бацькі хлопчыка спадзяваліся, што пярсцёнак выйдзе натуральным шляхам, таму пачакалі некалькі дзён. Дзіця ўвесь гэты час адчувала сябе добра. Але бацькі ўсё ж звярнуліся ў дзіцячую бальніцу. Там пад наркозам пярсцёнак дасталі са страўніка дзіцяці. Хлопчыка выпісалі на наступны дзень.

**Паводле rgazeta.by.**

## На Віллянiным хутары згарэла альтанка

ВІЛЕЙКА

Як паведаміў старшы інжынер пажарнага нагляду Вілейскага РАНС **Яўген Камароў**, узгаранне адбылося ў ноч з 17 на 18 мая.

Пра здарэнне на Вілляніным хутары выратавальнікам паведамілі відавочцы. У выніку агонь знішчыў альтанку цалкам. Цяпер праводзяць праверку. Разглядаюць магчымыя версіі здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Завяршылі справу па незаконным абароце наркотыкаў

АШМЯНЫ

Упраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы аб незаконным абароце наркотыкаў, узбуджанай мытнымі органамі ў дачыненні да 48-гадовага расіяніна.

Па дадзеных следства, 8 лютага 2019 года ў Каменным Логу ў аўтамабілі, якім кіраваў мужчына, мытнікі знайшлі схованкі.

**Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, у іх абвінавачаны вёз больш за 59 кілаграмаў гашышу, каб прадаць яго ў Расіі.**

Следчыя звярнуліся да кампетэнтных органаў Расіі і Польшчы за прававой дапамогай. У гэтых краінах таксама расследуюць крымінальныя справы членамі злачыннай групы, куды ўваходзіў расіянін. Супрацоўнічалі таксама з Інтэрполам.

Следчыя ўстанавілі, што мужчына ад 2016 года добраахвотна ўвайшоў у транснацыянальную арганізаваную групу, якая дзейнічае ў Расіі і шэрагу еўрапейскіх дзяржаў. Дадзеную групу стварылі для сістэматычнай рэалізацыі гашышу ў буйным памеры ў Расіі. Пры гэтым выразна сфарміравалі склад і структуру групы, а таксама функцыі, месца і ролю кожнага яе ўдзельніка.

Сам мужчына тлумачыў, што перавозіць элітны тытунь. Аднак матэрыяламі крымінальнай справы пацвярджаецца факт, што фігурант ведаў і пра тое, што перавозіць наркотыкі, а таксама пра кур'ерскую сетку і прынцыпы працы арганізаванай злачыннай групы.

Фігуранта заключылі пад варту. Справу перадалі ў суд.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

# Сталыя людзі атрымліваюць лісты з насеннем кветак

**Цягам некалькіх тыдняў сталыя людзі на Валожыншчыне атрымліваць у свае паштовыя скрыні лісты. А ў іх – насенне кветак. Так тут праходзіць флэшмоб «Парастак дабрыні», які ладзіць Валожынскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнай абароны насельніцтва. Такім чынам арганізатары падтрымліваюць сталых людзей у няпросты час пандэміі.**

ВАЛОЖЫН

– Пачалося ўсё з таго, што мы адправілі лісты падтрымкі падапечным аддзялення дзённага знаходжання нашага цэнтра. Гэта сталыя людзі, нашы наведнікі, якія цяпер сядзяць дома на самаізаляцыі. Такія лісты ад нас атрымалі таксама сталыя жанчыны, якіх мы наведваем дома, – расказала псіхолаг Валожынскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнай абароны насельніцтва **Алена Жданюк**.

Насенне для добрай справы далі ў Валожынскай раённай арганізацыі інвалідаў, якой кіруе **Віктар Субач**. У выніку на сёння адправілі больш за 60 такіх лістоў падтрымкі. А каб да справы далучылася больш людзей, запусцілі флэшмоб «Парастак дабрыні».

Арганізатары прапануюць усім ахвотным падтрымаць людзей, якія мусяць быць сёння на самаізаляцыі. Для гэтага дастаткова напісаць ліст і ўкласці ў канверт пакецік з насеннем. Пры жаданні можна напісаць пра гэта ў сацсетках, дадаўшы хэштэг #парастак дабрыні, #росток доброты і перадаць эстафету сваім сябрам.

Ва ўсім гэтым ёсць маленькая інтрыга: насенне трэба дасылаць так, каб адрасат не зразумеў, якія гэта кветкі. А ўбачыў толькі тады, калі яны вырастуць.

Што пісаць у лісце? Цёплыя словы падтрымкі. Арганізатары прапануюць прыблізны тэкст:

«Паважаная (ы) / Дарагая (гі), ________________!

________________ У сувязі з эпідэміялагічным становішчам Вы пакуль не можаце весці той лад жыцця, да якога прывыклі, наведваць любімыя месцы і мерапрыемствы, хадзіць у госці. Аднак гэта не назаўжды. Гэта часовая мера. Разумею, што абмежаванне звыклых кантактаў і выкананне рэкамендацый заставацца дома – няпростая задача, але гэтыя меры абароны цяпер вострa неабходныя нам з вамі, нашым родным і блізкім, усім людзям у краіне і ў свеце.

Каб сядзець на каранціне Вам было не так сумна, да ліста прыкладаю насенне кветак, бо кветкі – самае прыгожае, што стварыла прырода. Якія гэта кветкі – сакрэт. Калі пасадзіце – тады і даведаецеся. Спадзяюся, што ў гэты нялёгкі час кветкі ўзыдуць, распусцяцца і будуць радаваць Вас сваёй прыгажосцю».

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота забяспечанае Аленай ЖДАНЮК.

Рыхтуюцца лісты падтрымкі для сталых людзей.

## Вучыце правілы бяспекі разам з дзецьмі

**Каб прыцягнуць увагу да праблемы дзіцячага свавольства з агнём і гібелі дзяцей на пажарах, знізіць колькасць надзвычайных сітуацый з удзелам дзяцей і зрабіць бяспечным іх знаходжанне дома, на вуліцы, адпачынку, на вадаёме, ад 11 мая Міністэрства па надзвычайных сітуацыях праводзіць прафілактычную акцыю «Не пакідайце дзяцей адных», прымеркаваную да Міжнароднага дня сям'і і Міжнароднага дня абароны дзяцей. Акцыя працягнецца да 1 чэрвеня.**

Ужо зусім хутка пачнуцца летнія канікулы, а гэта значыць, што ў дзяцей з'явіцца шмат вольнага часу. Таму не лішнім будзе ў чарговы раз нагадаць ім правілы бяспекі. Небяспека можа падпільноўваць дзяцей на дарогах, каля вадаёмаў, у лесе, у дварах і нават на гульнявых пляцоўках.

Для таго каб дзеці правялі канікулы бяспечна, займіце іх цікавымі справамі. У гэтым вам дапамогуць навучальныя матэрыялы МНС:

1. Паглядзіце на YouTube-канале «МНС Беларусі» мультсерыял «Чароўная кніга». Гэта 22 серыі займальных прыгод неспакойнай Птушачкі, дапытлівага Зайца, разумнага Бабра і няўдачлівага Воўка. Прайдзіце «Тэст бяспекі» разам з дзецьмі на сайце www.112.by;

2. Зазірніце ў раздзел «Мультымедыя па АБЖ» на сайце www.112.by і знайдзіце занятак па душы: паглядзіце фільмы, паслухайце казкі, пагуляйце ў гульні, расфарбуйце размалёўкі або пачытайце кніжкі ад ратавальнікаў;

3. Спампуйце мабільнае прыкладанне МНС «Дапамога побач» на Play Market для Android і на App Store для iOS і паляпшайце свае веды правілаў бяспекі пры дапамозе тэстаў і гайдаў;

4. Калі вы бацькі маленькага дзіцяці, абавязкова вывучыце 3D-карту з небяспечнымі для малых месцамі ў доме. Яе можна знайсці ў мабільным прыкладанні МНС «Дапамога побач» у раздзеле «Энцыклапедыя» – «Парады маладым мамам»;

5. Уступайце ў нашу суполку «МНС Мінскай вобласці» ў сацыяльнай сетцы «УКантакте». Штодня стужка папаўнецца як цікавымі фактамі аб пажарнай службе, так і вясёлым навучальна-забаўляльным кантэнтам.

Бавце час з задавальненнем і карысцю.

### Як навучыць дзіця бяспечным паводзінам. Парады ад МНС

Паважаныя мамы і таты, вось некалькі простых парадаў, як навучыць дзіця бяспечным паводзінам:

– штодня нагадвайце дзіцяці аб правілах бяспечных паводзін;

– выкарыстоўвайце для гэтага адпаведныя сітуацыі: на вуліцы, у дамашняй абстаноўцы, у падарожжы;

– тлумачце дзіцяці ўсё, што адбываецца вакол, каментуйце, чаму трэба паводзіць сябе так, а не інакш;

– важна памятаць: забарона хутчэй дасць стымул дзіцяці паспрабаваць у вашу адсутнасць тое, што нельга, таму казаць пра бяспеку трэба з даверам. Ні ў якім разе не пагражаць і не запалохваць.

Калі хочаце навучыць дзіця правілам бяспекі, перш за ўсё, выконвайце іх самі.

### Што трэба рабіць, калі здарыўся пажар

– Выбегчы на вуліцу;

– патэлефанаваць на нумары 101 ці 112 і выклікаць ратавальнікаў;

– паведаміць, што гарыць, і свой адрас.




### Калі пры пажары выйсці з памяшкання немагчыма, неабходна:

– выклікаць ратавальнікаў па нумарах тэлефонаў 101 ці 112;

– зачыніць вокны, заткнуць шчыліны пад дзвярыма мокрымі анучамі;

– рот і нос прыкрыць вільготнай тканінай;

– калі ёсць магчымасць, выйсці на балкон і шчыльна прыкрыць за сабой дзверы;

– калі балкона няма, чакаць дапамогі каля акна, падаючы сігналы ратавальнікам кавалкам яркай матэрыі.

Захоўвайце запалкі, запальнічкі ў недаступных для дзяцей месцах. І не пакідайце дзяцей без нагляду.

**Валянціна СОПАТ, ГРАНС Маладзечна.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае



Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• VW B-5, 1999 г.в., седан, серабро, з ЗША, поўная камплектацыя, ідэальны стан. Т. (8-044) 7755035.

• Аўдзі-80, 1990 г.в., 1,6 бензін, светла-бэжавая, добры стан. Т. (8-029) 8822288.

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі да Аўдзі-80, 1985 г.в. Т. (8-029) 5024571.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-033) 6612163.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра з участкам у Вілейцы. Т. (8-029) 1553090.*

• Дом 11х9, гаспадарчыя пабудовы на перавоз. Мядзельскі раён, а/г Крывічы. Яўген. Т. (8-01797) 43397.

• Дом з участкам 0,13 га. Падведзены газ, трох- і аднафазнае электрасілкаванне, тэлефон. Вілейскі раён, в. Ілішчавічы, вул. Цэнтральная, 70, 12 500 руб. Т. +7(915) 3507738 (вайбер, вацап).*

• Дом у вёсцы Папоўцы Вілейскага раёна, 20 сотак, побач лес, рака Нарач. Т. (8-029) 1739610.*

### ЗДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, вул. Гагарына,12, к.1 Т. (8-029) 2734351.

### НАЙМУ

• Сям'я з трох чалавек найме дом у Вілейцы на доўгі тэрмін. Своечасовую аплату і акуратнасць гарантуем. Т. (8-044)7901790. Алена.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Узворванне (вспашка) і культывацыя прысядзібных участкаў. ІП Каркоцкі С.У. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бараны і авечкі жывой вагой, 5 рублёў за 1 кг. Т. (8-029) 6769359 Віталь.*

**СЧИТАТЬ НЕДЕЙСТВИТЕЛЬНЫМИ**

Свидетельство о государственной регистрации юридического лица Общества с ограниченной ответственностью «Лазурит-Партнер» № 691291605, Устав ООО «ЛазуритПартнер»

**В СВЯЗИ С УТЕРЕЙ.**

• Цялушка пакрытая, першацёлка пакрытая. Т. (8-029) 8568818.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Прадавец у а.г. Палачаны. З/плата 400-700 руб. Т. (8-029) 6383331.*

• Прадавец гароднiны і садавіны на сезонную работу з досведам працы. Т. МТС (8-029)5013902.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |







# «Замежную мову ніколі не вывучыць да канца»

## Маладзечанка заняла другое месца на нацыянальнай алімпіядзе па нямецкай мове

МАЛАДЗЕЧНА

**Вучаніца 11 «А» класа сярэдняй школы №5 Юлія Дземідовіч чытае нямецкія кнігі ў арыгінале, спявае па-нямецку, слухае нямецкамоўных блогераў. Два гады запар дзяўчына займае другое месца на рэспубліканскай алімпіядзе па нямецкай мове, але ўпэўненая: замежную мову ніколі нельга вывучыць да канца.**


Фота забяспечанае гераіняй публікацыі.

Юлія Дземідовіч у роднай школе №5.

### Як усё пачыналася

Вывучаць нямецкую Юля пачала факультатыўна з першага класа. У трэцім класе з'явіўся вучэбны прадмет.

– Тое, што нямецкая мова – гэта маё, я адчула не ў першым класе і не ў трэцім. Здарылася гэта ўжо бліжэй да восьмага, калі сама, без дапамогі мамы, пачала рабіць дамашнія заданні, складаць тэксты. Адчула, што ў мяне гэта атрымліваецца і мне гэта падабаецца, – прыгадвае Юля.

### У нямецкую гімназію – на паўгода

А ў дзявятым класе дзяўчына па абмене паехала вучыцца ў нямецкі горад Гецінген, у гімназію, з якой супрацоўнічае маладзечанская школа №5. Там паўгода яна вывучала па-нямецку ўсе прадметы школьнай праграмы.

Прызнаецца, што не ўсё адразу разумела. Многія тэмы па матэматыцы, гісторыі, рэлігіі наперад перакладала для сябе. Тым больш, па назіраннях Юлі, тая нямецкая, якую мы вучым у школе, і тая, на якой размаўляюць у Германіі, усё ж адрозніваюцца. Пасля стала лягчэй.

– Затое, калі праз паўгода прыехала ў Беларусь і прыйшла ў сваю школу, цяжка было перастроіцца. Настаўніца на ўроку мне задае пытанне па-беларуску, а я пачынаю адказваць па-нямецку, – смяецца дзяўчына.

### Бацькі плакалі разам са мной

Сёлетняя алімпіяда для Юлі была хвалюючай. Летась таксама выступала і таксама заняла другое месца. Хвалявала і сітуацыя з пандэміяй. І ўсё ж Юля ўдзячная сваім бацькам за тое, што яны адпусцілі яе на алімпіяду ў Мазыр.

– Звычайна алімпіяда праходзіць у тры этапы: тэст, аўдзіраванне і размова. На гэты раз з-за пандэміі размову адмянілі. І гэта мяне не парадавала, хутчэй, наадварот. Вусная размова па-нямецку – гэта мой канёк. Я ведала, што магу тут атрымаць высокі бал. Але такой магчымасці пазбавілі, – распавядае Юля.

Прызнаецца, што асабліва хвалявалася за артыклі. Па назіраннях дзяўчыны, гэта адна з самых складаных тэм у нямецкай мове. Тут нават самі немцы часам памыляюцца.

– Канешне, было страшна. Калені трэсліся. Калі даведалася сваю колькасць балаў, мне падалося, што гэта вельмі мала і што ніякага месца я не займу. З плачам тэлефанавала бацькам і казала пра тое, што не перамагла. Калі аб'явілі, што ў мяне другое месца, зноў тэлефанавала бацькам. Ужо казала, што перамагла, але таксама са слязьмі. І яны разам са мной плакалі. На гэты раз ад радасці, што я так доўга ішла да мэты. І, урэшце, дайшла.

Бацькі і настаўніца нямецкая мовы **Зоя Дылеўская** – першыя, каму Юля расказала пра сваю перамогу. Прызнаецца, што вельмі прыемна было прыйсці пасля алімпіяды ў школу. Разумела, яе перамога – гэта радасць для ўсёй школы і ўсіх настаўнікаў.

– Нават самі педагогі казалі пра тое, што цяпер у школе ўся настаўніцкая гудзе, – кажа Юля.

### У чым сакрэт поспеху

Па словах дзяўчыны, такія сур'ёзныя заняткі нямецкай не перашкаджаюць іншым урокам. І выдатная вучоба Юлі па ўсіх прадметах – яскравае сведчанне таму.

– Я магу правільна размеркаваць час, каб яго хапіла і на нямецкую мову, і на іншыя ўрокі, і на падрыхтоўку да ЦТ, і на адпачынак. Хаця нагрузка адчуваецца ў параўнанні з мінулым навучальным годам, – дзеліцца Юля.

А яшчэ ў дзяўчыны ёсць такі сакрэт поспеху – яна ніколі не сядзіць за ўрокамі да позняй ночы. Заўсёды кладзецца спаць да 11 вечара.

### Спачатку – у БДУ

Сёлетняя алімпіяда для Юлі была лёсавызначальнай. Другое месца на рэспубліцы для вучаніцы 11 класа азначае паступленне без экзаменаў у лінгвістычны ўніверсітэт. Аднак маладзечанка не шукае лёгкіх шляхоў і не збіраецца адразу выкарыстоўваць гэту льготу.

– Спачатку паспрабую сама паступіць у БДУ на факультэт міжнародных адносінаў. Там мой дыплом нічога не дае. Калі ж не атрымаецца, пайду без экзаменаў у лінгвістычны, – дзеліцца Юлія Дземідовіч планамі на бліжэйшую будучыню.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА.

Вілія.

## Вілія, Іслач і Скема – у топе-10 самых цікавых рэк Беларусі

**Топ-10 самых цікавых беларускіх рэк размешчаны на сайце «Планета Беларусь».**

### Скема

Скема выцякае з возера Мястра і ўпадае ў возера Нарач. Дадзеныя адносна яе даўжыні істотна адрозніваюцца. Адны крыніцы кажуць пра 166 метраў, іншыя – пра 200.

У любым выпадку, гэта самая кароткая рака ў Беларусі.

Тым не менш Скема мае ўсе характэрныя прыкметы: натуральную плынь і самастойна выпрацаванае паглыбленне ў зямлі, званае рэчышчам, а таксама ўласную ўнікальную экасістэму.

### Іслач

Няма поўнай дакладнасці адносна таго, якая з беларускіх рэк з'яўляецца самай халоднай. Усё ж галоўным прэтэндэнтам на гэта званне з'яўляецца Іслач, якая працякае па тэрыторыі Налібоцкай пушчы.

Турысты, якіх прыцягваюць яе блізкасць да Мінска і маляўнічыя берагі, пацвердзяць, што нават у летнюю спякоту купанне ў гэтай рацэ прыйдзецца па душы не кожнаму.

Затое халодная вада, багатая кіслародам, даспадобы рэдкім відам рыб, уключаючы харыуса і ручаёвую стронгу.

### Вілія

Важную ролю ў захаванні біялагічнай разнастайнасці іграе рака Вілія, бо толькі сюды заходзіць на нераст ласось. Тыя чытачы, якім даводзілася бачыць гэту рыбу толькі на прылаўках крамы, напэўна, здзівяцца, даведаўшыся, што раней яна вадзілася практычна ва ўсіх рэках, якія адносяцца да басейна Нёмана.

З-за будаўніцтва Каўнаскай ГЭС дарослыя рыбы цяпер могуць нераставаць толькі ў Віліі і яе прытоках з хуткім цячэннем і камяністым дном.

**Паводле сайта «Планета Беларусь».**

## Карціны Веры Каўзановіч – у ліку прэтэндэнтаў на Нацыянальную прэмію

ВІЛЕЙКА

Днямі адборачная камісія рэспубліканскага конкурсу «Нацыянальная прэмія ў галіне выяўленчага мастацтва 2019-2020» падвяла вынікі працы. У шортліст увайшла мастачка з Вілейкі **Вера Каўзановіч**.

Усяго на конкурс падалі 358 заявак у дзесяці намінацыях. Серыя прац Веры «Абмежаванае жыццё» адзначылася ў намінацыі «Графіка». Яе працы разам з працамі іншых мастакоў, абраных журы, представяць на выставе «Трыенале сучаснага мастацтва». Падчас выставы журы вызначыць лаўрэатаў. Яны атрымаюць дыпломы і грашовую ўзнагароду.

Нагадаем, што некалькі год таму Вера Каўзановіч з сям'ёй пераехала з Мінска ў Вілейку. Вера – сябра Саюза мастакоў Беларусі. Летась яе персанальная выстава прайшла ў Маладзечне.

**Аддзел інфармацыі.**

## Паэт з рэгіёна стаў лаўрэатам міжнароднага літаратурнага конкурсу

ВІЛЕЙКА

Днямі падвялі вынікі міжнароднага літаратурнага конкурсу «Нашай Перамозе – 75!». Сярод пераможцаў конкурсу ёсць жыхар Вілейкі, паэт, педагог, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі **Уладзімір Цанунін**.

Як распавёў паэт «Рэгіянальнай газеце», на конкурс ён накіраваў некалькі вершаў пра вайну і перамогу. У выніку заняў трэцяе месца ў намінацыі «Паэзія». «Бронзу» ён раздзяліў з паэткай з Латвіі **Элінай Ярмілавай**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Калі даведалася пра першае месца – заплакала»

## Абсалютная перамога на алімпіядзе па фізкультуры – у вучаніцы з Лыцавічаў

ВІЛЕЙКА

**Адзінаццацікласніца Анастасія Кібалка вучыцца ў Чурлёнскім вучэбна-педагагічным комплексе «дзіцячы сад-сярэдняя школа». І пры гэтым яна ўжо студэнтка. Як такое магчыма? Насця стала абсалютнай пераможцай рэспубліканскай алімпіяды па прадмеце «фізічная культура і здароўе».**



Фота забяспечанае гераіняй публікацыі.

Анастасія Кібалка са сваім трэнерам і бацькам Ігарам Кібалкам.

Дзяўчына расказала нам пра сябе, сваю перамогу і пра тое, як прыйшла ў спорт.

### Не заўсёды хацела займацца, але тата пераконваў

Насця – з настаўніцкай сям'і. Яе мама, **Ала Кібалка**, выкладае ў пачатковых класах, а бацька, **Ігар Кібалка**, працуе настаўнікам фізкультуры. Менавіта ён і рыхтаваў дачку да алімпіяды.

Па словах Насці, з сямі гадоў яна пачала займацца акрабатыкай. Усё атрымлівалася. Але ў 13 любімы від спорту прыйшлося пакінуць з-за траўмы. Дзяўчына прызнаецца, што без спорту ўжо не магла. Таму стала спрабаваць сябе ў лёгкай атлетыцы.

– Праз пару год зразумела: лёгкая атлетыка – не маё. Таму пачала займацца ўсім, чым можна. З пятага класа ездзіла на летняе і зімовае мнагаборства. Летняе – гэта бег, стральба, адцісканне, скачок і плаванне 50 метраў. Зімовае – лыжныя гонкі, стральба, скачок, адцісканне. Спачатку было шмат спаборніцтваў па акрабатыцы, пасля – па лёгкай атлетыцы, шмат школьных спаборніцтваў і такая ж алімпіяда ў мінулым годзе, – прыгадвае Насця.

Адзначае, што ў яе спартыўных поспехах вельмі вялікая заслуга бацькі і трэнера:

– Менавіта ён мяне падтрымліваў, падштурхоўваў, даваў парады. Думаю, каб не тата, я цяпер не займалася б спортам. Калі толькі пачынала займацца акрабатыкай, я не асабліва хацела ездзіць на спаборніцтвы. Але тата пераконваў. І ўрэшце, я зразумела, што спорт – гэта маё жыццё.

Дзяўчына прызнаецца, што раніцай зарадку не робіць, асаблівых правілаў у харчаванні не мае. Але трэніруецца штодзень у спартыўнай зале.

### Як праходзіла алімпіяда падчас пандэміі

Сёлета ў сувязі з пандэміяй рэспубліканская алімпіяда праходзіла не так, як звычайна:

– У пакоях нас пасялілі па адным. У сталовую не хадзілі. Ежу прыносілі кожнаму ў пакой. Тэарэтычнае заданне здавалі ў вялікай зале і трымалі дыстанцыю. У спартыўных залах усюды былі антысептыкі. Апрацоўвалі мячы, памяшканні, дзе ладзілі спартыўныя гульні, спаборніцтвы, правяралі нашу фізічную падрыхтоўку. На маю думку, нягледзячы на складаную сітуацыю з каранавірусам, арганізацыя алімпіяды была на высокім узроўні.

### Хвалявалася, бо адчувала: магу перамагчы

Насця ўдзельнічае ў алімпіядзе не першы раз. Але прызнаецца, што менавіта сёлета хвалявалася асабліва, бо адчувала, што мае шанцы на перамогу.

– Калі даведалася, што выйграла, пачала плакаць, – прыгадвае суразмоўца. – Бо ўсе мае высілкі, старанні прайшлі недарма.

Дзяўчына расказала, што па тэлебачанні заўсёды глядзіць спаборніцтвы па фрыстайле, лёгкай атлетыцы, біятлоне. Акрамя спорту, захапляецца пазламі і маляваннем.

– Канешне, жывучы ў горадзе маладыя людзі маюць большыя магчымасці для развіцця, – лічыць Насця. – Але і ў вёсцы, калі ты працуеш над сабой, можна дасягнуць добрых вынікаў.

**Але і ў вёсцы, калі ты працуеш над сабой, можна дасягнуць добрых вынікаў.**

Анастасія раскавала, што яшчэ ў пятым класе паставіла перад сабой мэту – паступіць ва ўніверсітэт фізічнай культуры. І яе мара ўжо практычна здзейснілася. Маючы першае месца на рэспубліканскай алімпіядзе па фізічнай культуры і здароўі, выпускніца з Чурлёнаў зможа паступіць у жаданы ўніверсітэт без уступных экзаменаў.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Беларусь 1

**6.15** Існасць [СТ].
**6.40, 22.00** Х/ф **«ДОБЕЖАТЬ ДО СЕБЯ».**
**8.20** Кулинарная дипломатия.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** Смысл жизни. Николай Козеко.
**9.45** Здоровье [СТ].
**10.35** Дача.
**11.15, 12.10** Х/ф **«РЫЖИК».**
**15.15** Краіна.
**15.45** Х/ф **«БРЕСТ. ГЕРОИ ФОРПОСТА».**
**16.05** Х/ф **«КЛЮЧИ».**
**20.00** «Макаёнка, 9». Субботнее шоу.
**21.00** Панорама.
**21.45** «На контроле Президента».
**1.35** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.45** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**
**9.25, 21.05** Телебарометр.
**9.30** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНАЯ ИСТОРИЯ О ГИГАНТСКОЙ ГРУШЕ».**
**10.45** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**11.40** Копейка в копейку.
**12.10** Камень, ножницы, бумага.
**12.45** Кто я?
**13.00** «Верю не верю». Трэвел-шоу.
**13.55** «Когда мы дома». Скетчком.
**14.25** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ».**
**16.15** «Меняю жену». Реалити-шоу.
**17.50** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.
**19.25** Х/ф **«НА ГЛУБИНЕ 6 ФУТОВ».**
**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНЫЙ ЧЕЛОВЕК 3».**
**23.30** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».
**7.55, 14.45, 20.15** Навіны культуры.
**8.15, 20.35** «Гэты дзень».
**8.20** «Хвосты», «Зеркальце». Мультфільмы.
**8.45** «Па вуліцы камоду вадзілі». Мастацкі фільм.
**10.00** «Жывая культура». Традыцыя вырабу пісанак (г.п.Сапоцкін, Гродзенскі раён).
**10.20** «Беларуская кухня». Бабка па-панску.
**10.50** «Апошняе лета дзяцінства». Мастацкі фільм [СТ].
**14.20** «Навукаманія».
**15.05** «Майстры і куміры». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Аляксандр Падабед.
**15.55** «Чатыры танкісты і сабака» Шматсерыйны мастацкі фільм. 7-я – 9 с.
**18.40** «Дыскатэка СССР». «Дзень добры, сябры!». Канцэрт.
**19.30** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – педагог, літаратуразнаўца, перакладчык, кандыдат філалагічных навук Мікола Трус.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Аты-баты, шли солдаты…». Мастацкі фільм [СТ].
**22.40** Майстры культуры – ветэранам. «И помнит мир спасённый...» Канцэрт.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**7.45** «Непутёвые заметки».
**8.25** «Цель 99. Дом без отходов».
**9.10** Х/ф **«КОРОЛЕВА БЕНЗОКОЛОНКИ».**
**10.35** «Видели видео?».
**13.00** Премьера. «На дачу!» с Наташей Барбье.
**14.15** «Александр Абдулов. Жизнь на большой скорости».
**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.
**17.55, 21.10** «Сегодня вечером».
**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**23.30** Х/ф **«ТАЕЖНЫЙ РОМАН».**

## СТВ

**6.55, 0.45** «Живая тема».
**7.50** «Анфас».
**8.10** «Самая полезная программа».
**9.05, 23.20** Документальный проект.
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.05, 13.40** Т/с **«СМЕРШ. ДОРОГА ОГНЯ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**14.50, 16.40** Т/с **«СМЕРШ. КАМЕРА СМЕРТНИКОВ».**
**18.30, 20.00** Т/с **«СМЕРШ. УМИРАТЬ ПРИКАЗА НЕ БЫЛО».**
**22.15** «Территория заблуждений».

## Мир

**6.00, 7.50, 5.50** Мультфильмы.
**7.20** «Секретные материалы. Личные враги фюрера».
**8.35** «Наше кино. История большой любви. Шерлок Холмс».
**9.05** Ток-шоу «Слабое звено».
**10.00, 16.00, 19.00** Новости.
**10.10, 16.15, 19.15** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА».**
**3.40** Х/ф **«ДЕСЯТЬ НЕГРИТЯТ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».
**6.10** Сегодня. Главное.
**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.45** «Истории ремонта».
**7.20** «Дача».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.55** «Города Беларуси».
**9.25** «Врачебные тайны плюс».
**10.25** Главная дорога.
**10.55** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**11.45** Квартирный вопрос.
**12.40** «Поедем, поедим!».
**13.50** Истории спасения.
**14.25** Т/с **«МАМОЧКА, Я КИЛЛЕРА ЛЮБЛЮ».**
**16.25** «Секрет на миллион». Марат Башаров.
**18.05** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**20.35** Х/ф **«ОРДЕН».**
**0.20** «Крутая История».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ЛЮБОВЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО».**
**8.55** Х/ф **«КРУЖЕВА».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.25** Х/ф **«ВЕРНУТЬ ВЕРУ».**
**13.10** ПРЕМЬЕРА. «100ЯНОВ». Шоу Юрия Стоянова.
**14.15** «Новое и лучшее». Концерт Инны Афанасьевой.
**16.15** Х/ф **«ЛЮБИТЬ И ВЕРИТЬ».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.50** «Привет, Андрей! Последний звонок». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.35** Х/ф **«ВКУС СЧАСТЬЯ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.05** Хеллбой II: Золотая армия. **8.40** Кейт и Лео. **11.00** Код Да Винчи. **13.35** Ангелы и Демоны. **15.55** Хеллбой: Герой из пекла. **20.10** Как украсть небоскрёб. **22.00** Семейка Джонсов. **23.40** Параллельные миры. **1.40** Улыбка Моны Лизы. **3.45** Ешь, молись, люби.

### TV1000 ACTION

**7.00, 18.00** Пастырь. **8.35** Возмездие. **10.30** Дэнни Цепной пёс. **12.15** Универсальный солдат. **14.00** Паранормальное. **16.00** Железный рыцарь. **19.30** Быстрее пули. **21.10** Ничего себе поездочка. **22.50** Револьвер. **0.50** Французский транзит. **3.20** Бессонная ночь. **5.10** Легенда.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.05** Белая птица с чёрной отметиной. **7.45** Домовой. **9.40** Тайна печати дракона. **11.45** Волкодав из рода Серых Псов. **14.10** Кровавая леди Батори. **16.05** Пиковая дама: Зазеркалье. **17.35, 5.30** Проводник. **19.10** Яга. Кошмар тёмного леса. **21.25** ПираМММида. **23.25** Территория. **2.10** Защитники. **4.00** Отрыв.

### ТВ3

**6.00, 9.45** Мультфильмы. **9.30** «Рисуем сказки». **10.00, 10.45, 11.45** Т/с **«ГРИММ». 12.30** Х/ф **«МАРАБУНТА. 1998 Г. США «. 14.30** Х/ф **«ПИНГВИНЫ МИСТЕРА ПОППЕРА». 16.30** Х/ф **«ХРОНИКИ НАРНИИ: ПОКОРИТЕЛЬ ЗАРИ». 19.00** Х/ф **«МОГУЧИЕ РЕЙНДЖЕРЫ». 21.30** Х/ф **«ИГРА ЭНДЕРА». 23.45** Х/ф **«ХРОНИКА». 1.30, 2.00, 2.30, 2.45, 3.15, 3.45, 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Городские легенды».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЖУКОВ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПОДРУГА БАНКИРА». «ОХОТА НА ГАУЛЯЙТЕРА». 15.00, 15.55, 16.50, 17.40, 18.30, 19.30, 20.20, 21.15** Т/с **«ДРУЖИНА». 22.10, 23.10** Т/с **«СТАРОЕ РУЖЬЕ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.30** Х/ф **«ОФИСНЫЙ БЕСПРЕДЕЛ». 2.10** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ». 3.45** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО». 5.40** Х/ф **«УЕДЕМ К ЧЕРТОВОЙ БАБУШКЕ». 7.35** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 9.45** Х/ф **«ТУРЕЦКИЙ ДЛЯ НАЧИНАЮЩИХ». 11.45** Х/ф **«ЕСЛИ БЫ Я БЫЛА МУЖЧИНОЙ». 13.40** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ». 15.40** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК, КОТОРЫЙ СЛИШКОМ МАЛО ЗНАЛ». 17.30** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЙ БЁРТ УАНДЕРСТОУН». 19.30** Х/ф **«РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ». 21.20** Х/ф **«РОЖДЕСТВО». 23.15** Х/ф **«100 ВЕЩЕЙ И НИЧЕГО ЛИШНЕГО».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.55, 1.45** Т/с **«ВИРТУОЗЫ». 2.45, 3.45** Т/с **«БАРС И ЛЯЛЬКА». 4.45, 5.45, 6.50, 7.50, 8.50, 9.50, 10.50, 11.50, 12.55, 13.55** Т/с

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.30, 9.05, 9.55, 11.05, 12.55, 14.40, 16.25, 17.50, 19.55, 20.55, 23.05** Погодка. **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.10** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **10.35** Travel-шоу «ВОКРУГ СВЕТА ВО ВРЕМЯ ДЕКРЕТА». **11.10** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 13.00** Х/ф **«ПАПА-МАМА ГУСЬ». 14.45** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО». 16.30, 1.45** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **17.55** Фэнтези «ЛЕГЕНДА О КОЛОВРАТЕ». **20.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **21.00** Х/ф **«ВИКИНГИ ПРОТИВ ПРИШЕЛЬЦЕВ». 23.10** Х/ф **«ЧЕТВЕРТЫЙ ВИД». 0.55** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **3.05** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.55** Азбука спорта. **7.10** Мир английской премьер-лиги. **7.40** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. **9.35** Фактор силы. **10.05** Большой спорт. **10.50, 22.15** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. 1-й тур. **14.45** Превью. Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. **14.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. Минск – Слуцк. **16.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. Белшина – Славия. **18.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. Динамо-Минск – Шахтер. **21.05** Тренировочный день. **21.35** Спорт-центр. **21.45** Футбол. Лига чемпионов.

### EUROSPORT

**0.00** Автогонки. Формула Е-2018/19. Берлин. **1.00** Автогонки. WTCR-2019. Вила-Реал. Первая гонка. **1.40** Автогонки. WTCR-2019. Вила-Реал. Третья гонка. **2.30** Снукер. UK Championship-2018. Йорк. 1/4 финала. О'Салливан – О'Доннелл. **3.15** Снукер. UK Championship-2018. Йорк. 1/2 финала. О'Салливан – Форд. **4.00** Снукер. UK Championship-2018. Йорк. Финал. О'Салливан – Аллен. **6.00** Автогонки. Формула Е-2018/19. Берн. **7.00** Автогонки. WTCR-2019. Нинбо. Первая гонка. **7.30** Автогонки. WTCR-2019. Нинбо. Третья гонка. **8.00** Автогонки. WTCR-2019. Макао. Первая гонка. **8.30** Автогонки. WTCR-2019. Макао. Вторая гонка. **9.00** Автогонки. WTCR-2019. Макао. Третья гонка. **9.30, 20.00** Теннис. «Ролан Гаррос». You Say We Play. **12.30** Снукер. The Players Championship-2019. 1/2 финала. О'Салливан – Аллен. **13.30** Снукер. The Players Championship-2019. Финал. О'Салливан – Н. Роберстон. **15.00, 16.30** Велоспорт. Классика «Джиро д'Италия». Лучшие этапы. **18.00** Велоспорт. «Вуэльта». 18-й этап. **23.00** Олимпийские игры. «Зал славы». Лондон-2012.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 14.25, 17.55, 1.20, 2.10** Сравнительный тест. **6.30, 9.25, 12.15, 14.55, 17.35, 22.40, 0.35, 3.05** Итоговые новости. **6.45, 16.45, 18.35** Металломщики. **8.30, 9.45** «Здесь был «Драйв». **10.40** Наезд! **10.50, 13.20, 0.50** Испытание на прочность. **11.25, 19.25, 22.55, 3.20** Кругосветка по бездорожью. **11.55, 19.55, 23.25, 3.45** Авто: вторые руки. **12.35, 20.10, 23.45, 4.00** Трасса А2. **13.50, 1.45** Тест на «Драйве». **15.10, 21.00, 4.45** Тест в большом городе. **15.45** Вечер с Пикуленко. **16.30, 22.25** Эконом-тест. **21.45, 5.15** Байки про байки. **2.35** Сити тестер. **5.55** Обновление.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.20, 9.10, 10.00, 19.40** Приключения на рыбалке. **10.45, 11.35** Адские грузовики. **12.25, 13.10** Переделка старья. **14.00, 14.45, 2.30, 3.15, 4.05, 4.50** Австралийские золотоискатели. **15.35** Охотники на морских ежей. **16.20, 20.30** Речные чудовища. **17.15** Масштабные инженерные ошибки. **18.00** Демонтаж самолетов. **18.50, 19.15** Нефритовая лихорадка. **21.20** Чудовищный карп. **22.10** Большое рыболовное состязание. **23.00** Большой улов. **23.50** Невероятная рыбалка. **0.45, 1.10, 1.35, 2.05** Зов Севера. **5.35** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.20, 7.10, 8.00, 8.45, 9.35, 10.20, 3.40, 4.30, 5.15** Музейные тайны. **11.10, 12.20, 13.25** Забытые королевства Южной Америки. **14.30, 15.25, 16.20** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **17.15** Возвращение Черной смерти. **18.05, 18.35** Даты, вошедшие в историю. **20.00** Критская операция. **21.00** Поля сражений. **22.05, 22.55** Загадки Египта. **23.45, 0.35** Могилы викингов. **1.25, 2.35** История христианства.

### NATURE

**6.20, 7.20, 8.20, 9.20** Я и моя собака: на пределе возможностей. **10.15, 10.40, 11.10, 11.35, 12.00, 12.25, 12.50, 13.15, 13.40** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **14.10** Речные чудовища. **15.00** Природа Америки: времена года. **15.50, 16.40, 17.35** Уэльс: дикая земля. **18.25** Сибирская одиссея. **19.25, 5.10** Выживание в дикой природе. **20.15** Бескрайняя Африка. **21.05, 22.40, 2.50, 4.20** Мутации погоды. **21.55** Невероятные встречи с животными. **23.30, 23.55** Природа в кадре. **0.20** Жуткие, настоящие и странные. **1.10** Хищные питомцы. **2.00** Анатомия крупнейших животных. **3.35** Ветеринар из Йоркшира.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Широкий взгляд с Кэлом Пенном. **6.25, 6.50** Игры разума. **7.35** Сборник «Игр разума». **8.25** «Фото-ковчег: самые редкие животные». **9.10** Солнечный фараон Египта: тайны и сокровища. **9.55** Китайская мегагробница. **10.40** Сокрытая гробница Чингисхана. **11.30, 12.15** Египет с высоты птичьего полета. **13.00** Европа с высоты птичьего полета. **13.45, 14.35, 5.15** Авто-SOS. **15.20, 16.05, 16.50, 17.35** Расследования авиакатастроф. **18.20, 19.00, 19.50, 20.35, 21.20, 22.10** Апокалипсис: Вторая мировая война. **22.50** «Наркоман Гитлер». **23.35, 0.20, 1.10, 2.00** Злоключения за границей. **2.50** Китай с высоты птичьего полета.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 6.45, 7.30, 8.35, 9.20, 10.10, 11.00, 11.45, 12.35, 13.20, 14.10, 14.55, 15.45, 16.35, 17.20, 18.10, 19.00, 19.45, 20.35, 21.20, 22.10, 23.00, 23.45, 0.35, 1.20, 2.05, 3.05, 3.50, 4.35, 5.20** «Радзишевский и К» в поисках рыбацкого счастья. **6.30, 7.15, 9.05, 9.50, 10.40, 11.25, 12.15, 13.05, 13.50, 14.40, 15.30, 16.15, 17.05, 17.50, 18.40, 19.30, 20.15, 21.05, 21.50, 22.40, 23.25, 0.15, 1.05, 1.50, 2.35, 2.50, 3.35, 4.15, 5.00, 5.45** Простые рецепты. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 13.55, 22.15, 2.25** Легендарные братья-пекари. **6.25, 10.15, 14.25, 22.45, 2.50** Дачных дел мастер. **6.55, 10.50, 19.10, 23.15, 3.20** Агротуризм. **7.25** Дачные радости с Виталием Декабрёвым. **7.55, 12.05, 16.15, 20.10, 0.15, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.20, 16.30, 20.30, 0.35, 4.30** Доктор смузи. **8.25, 12.40, 16.50, 20.40, 0.50, 4.45** Занимательная флористика. **8.45, 12.55, 17.05, 21.00, 1.10, 5.00** У мангала. **9.15, 13.20, 17.35, 21.30, 1.40, 5.30** История одной культуры. **11.20** Квас. **11.35, 15.45, 19.40, 23.50, 3.50** Безопасность. **14.55** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **15.30** Готовим на природе. **18.10** Большие идеи для маленького сада. **22.00** Вершки корешки. **2.10 2.10 2.10** ..И КОМПОТ!

## Беларусь 1

**6.25** Слова Митрополита Тадеуша Кондрусевича на Пятидесятницу.

**6.35** Х/ф **«ДОБЕЖАТЬ ДО СЕБЯ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПО ОШИБКЕ».**

**14.20** Х/ф **«ОСВОБОЖДЕНИЕ».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Х/ф **«БРЭСТ. ТЫСЯЧАГАДОВЫ РУБЕЖ».**

**16.30** Маршрут построен.

**17.05** Х/ф **«СЧАСТЬЕ ПО ДОГОВОРУ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«КЛЮЧИ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.45** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.30, 19.20** Телебарометр.

**9.35** «Подиум». Фэшн-шоу.

**10.30** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.10** «Зов крови». Реалити-шоу.

**12.15** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**13.10** Х/ф **«НА ГЛУБИНЕ 6 ФУТОВ».**

**14.50** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.25** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.15** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНЫЙ ЧЕЛОВЕК 3».**

**19.50** «Секретный миллионер». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ПОЛНОЧНОЕ СОЛНЦЕ».**

**22.50** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].

**23.50** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**7.55, 13.10, 20.15** Навіны культуры.

**8.15** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**8.30** «Аты-баты, шли солдаты...» Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.20** «Беларуская кухня». Бульбяны суп з салёнай рыбай.

**10.50** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.40, 21.05** «Паласаты рэйс». Мастацкі фільм [СТ].

**13.30** «Майстры і куміры». Народная артыстка Беларусі Наталля Руднева.

**14.20** «Па вуліцы камоду вадзілі». Мастацкі фільм.

**15.30** «Дыскатэка СССР». «Жадаю табе». Канцэрт.

**16.25** «Апошняе лета дзяцінства». Мастацкі фільм [СТ].

**19.50** «Сто дзён з Купалаўскім».

**20.35** «Гэты дзень».

**20.40** «Калыханка».

**22.40** Майстры культуры – ветэранам. «Удзячныя вам». Канцэрт ансамбля «Сябры».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ».**

**11.35** «Видели видео?».

**13.05** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.15** «Дмитрий Харатьян. «Я ни в чем не знаю меры».

**15.15, 16.20** Х/ф **«ДВЕНАДЦАТЬ СТУЛЬЕВ».**

**18.25** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!».

**20.00** «Контуры».

**21.20** Премьера. «Дороги любви». Концерт Дмитрия Харатьяна.

**23.20** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.40** «Что? Где? Когда?» Летняя серия игр.

## СТВ

**6.00, 23.50** «Живая тема».

**7.40, 11.00, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**12.00, 13.40** Т/с **«КОГОТЬ ИЗ МАВРИТАНИИ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**15.40, 16.40** Т/с **«КОГОТЬ ИЗ МАВРИТАНИИ-2».**

**19.30** «Неделя».

**22.10** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Беларусь сегодня. Любители адреналина».

**6.30** «Еще дешевле».

**7.00** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ ТУШЕНКА».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15** Т/с **«ЛИЧНОЕ ДЕЛО КАПИТАНА РЮМИН».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**19.30, 1.00** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.45** «Истории ремонта».

**7.20** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.50** «Дачный ответ».

**12.50** «НашПотребНадзор».

**14.05** Истории спасения.

**14.35** Т/с **«МАМОЧКА, Я КИЛЛЕРА ЛЮБЛЮ».**

**16.20** «Следствие вели...».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** Ты не поверишь!

**21.15** «Звезды сошлись».

**22.45** Х/ф **«ПРОТИВ ВСЕХ ПРАВИЛ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ВКУС СЧАСТЬЯ».**

**10.20** «Устами младенца».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.15** Х/ф **«НЕЛЮБИМАЯ».**

**14.35** Х/ф **«ЦВЕТ СПЕЛОЙ ВИШНИ».**

**18.00, 21.15** Х/ф **«МОЯ ЧУЖАЯ ЖИЗНЬ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**22.20** «В людях».

**22.50** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.20** Любимцы Америки. **8.20** Семейка Джонсов. **10.10** Параллельные миры. **12.00** Как украсть небоскрёб. **13.45** Ешь, молись, люби. **16.10** Улыбка Моны Лизы. **20.10** Лжец, лжец. **21.40** Чужой билет. **23.40** С любовью, Рози. **1.30** Планета Ка-Пэкс. **3.50** Гостья.

### TV1000 ACTION

**7.35** Ничего себе поездочка. **9.30** Французский транзит. **11.55** Бессонная ночь. **13.35** Быстрее пули. **15.20** Револьвер. **17.20** Легенда. **19.35** Анаконда. **23.55** Фар Край. **1.30** Шанхайский перевозчик. **3.20** Опасный квартал.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.10** Жизнь и удивительные приключения Робинзона Крузо. **9.05** ПираМММида. **11.00** Территория. **13.50** Яга. Кошмар тёмного леса. **16.00** Защитники. **17.35** Только не они. **19.15** Джунгли. **20.45** Горько! **22.30** Горько! 2. **0.20** Привычка расставаться. **2.00** На крючке! **3.55** Счастья! Здоровья!

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.15** «Новый день». **9.45, 10.30, 11.30** Т/с **«ГРИММ». 12.30** Х/ф **«СМЕРТЕЛЬНАЯ ТРОПА». 14.15** Х/ф **«МОГУЧИЕ РЕЙНДЖЕРЫ». 16.45** Х/ф **«ИГРА ЭНДЕРА». 19.00** Х/ф **«ФАНТОМ». 20.45** Х/ф **«ФАКУЛЬТЕТ». 23.00** Х/ф **«ДРУЖИННИКИ». 1.00** Х/ф **«ХРОНИКА». 2.30, 3.00, 3.15, 3.45, 4.15, 4.30, 5.00, 5.30** «Городские легенды».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЖУКОВ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПОДРУГА БАНКИРА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.25** Х/ф **«ЧЕСТНЫЙ ЧЕЛОВЕК». 2.50** Х/ф **«ВАСАБИ». 4.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ДРУГИЕ ЛЕКАРСТВА». 6.35** Х/ф **«СОБЛАЗНИТЕЛЬ». 9.00** Х/ф **«СОБЛАЗНИТЕЛЬ 2». 11.20** Х/ф **«ЭДДИ». 13.20** Х/ф **«РЭД 2». 15.30** Х/ф **«БАНДИТКИ». 17.15** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО». 19.30** Х/ф **«ЧЁРНЫЙ РЫЦАРЬ». 21.20** Х/ф **«ПИПЕЦ». 23.30** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ МУЖ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.05** Т/с **«СТАРОЕ РУЖЬЕ». 2.05, 3.15, 4.10, 5.15, 6.20, 7.20, 8.25, 9.25, 10.25, 11.30** Т/с **«МОСГАЗ». 12.30, 13.30, 14.30, 15.35, 16.35, 17.40, 18.40, 19.45, 20.50, 21.45** Т/с **«ПАЛАЧ». 22.45, 23.45** Т/с **«БАРС И ЛЯЛЬКА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.30, 9.05, 10.25, 11.55, 12.45, 13.45, 15.05, 16.05, 18.00, 19.30, 20.55, 22.40, 23.40** Погодка. **8.35, 22.45** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.10** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.55** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30, 2.50** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.50, 3.20** Шоу «РОГОВ ДОМА». **13.50** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 15.10** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **16.10** Х/ф **«ДВА СТВОЛА». 18.05** Х/ф **«ОХОТНИКИ НА ДРАКОНОВ». 19.35, 1.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ВЫПУСКНОЙ». 23.45** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **4.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **5.00** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. **8.50** Игры «на вырост». **9.20** Питстоп. **9.50, 23.30** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. 1-й тур. **14.55** Футбол. Лига чемпионов. **15.25** Превью. Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. **15.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. РЦОР-БГУ – Витебск. **17.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. БАТЭ – Ислочь. **19.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 11-й тур. Рух – Динамо-Брест. **22.00** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **22.45** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.00** Автогонки. Формула Е-2018/19. Берн. **1.00** Автогонки. WTCR-2019. Нинбо. Первая гонка. **2.00** Автогонки. WTCR-2019. Макао. Первая гонка. **2.30** Снукер. The Players Championship-2019. 1/4 финала. О'Салливан – Хиггинс. **3.15** Снукер. The Players Championship-2019. 1/2 финала. О'Салливан – Аллен. **4.00** Снукер. The Players Championship-2019. Финал. О'Салливан – Н. Роберстон. **6.00, 6.30** Автогонки. Формула Е-2018/19. Нью-Йорк. **7.15** Автогонки. WTCR-2019. Сепанг. Первая гонка. **8.00** Автогонки. WTCR-2019. Сепанг. Вторая гонка. **8.45** Автогонки. WTCR-2019. Сепанг. Третья гонка. **9.30, 20.00** Теннис. «Ролан Гаррос». You Say We Play. **12.30** Снукер. «Мастерс». Шанхай. 1/2 финала. О'Салливан – Н. Робертсон. **13.30** Снукер. «Мастерс». Шанхай. Финал. О'Салливан – Мёрфи. **15.00, 16.30** Велоспорт. Классика «Джиро д'Италия». Лучшие этапы. **18.00** Велоспорт. «Вуэльта»-2019. 20-й этап. **23.00** Олимпийские игры. «Зал славы». Рио-2016.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 14.40, 19.00, 1.15** Сравнительный тест. **6.30, 8.00, 17.15** Металломщики. **7.15, 15.10, 2.25** В поисках мотоприключений. **7.45, 11.05, 13.20, 16.55, 19.30, 23.35, 1.45, 3.50** Итоговые новости. **8.55, 10.05** «Здесь был «Драйв». **9.50** Наезд! **11.20** Мото тест-драйв. **11.40, 19.50, 23.00, 3.25** Кругосветка по бездорожью. **12.10, 20.20** Авто: вторые руки. **12.30, 20.35, 23.50, 4.05** Трасса А2. **13.35, 0.50** Испытание на прочность. **14.05, 1.55** Тест на «Драйве». **15.40, 21.25, 4.50** Тест в большом городе. **16.15** Байки про байки. **22.00, 5.20** Вечер с Пикуленко. **22.45** Эконом-тест.

### EXPLORE

**6.05, 6.55, 7.45, 8.40** Речные чудовища. **9.30** Большой улов. **10.25** Масштабные инженерные ошибки. **11.10** Демонтаж самолетов. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.10, 15.55, 16.45, 17.30, 18.20, 19.05, 19.55, 20.40, 21.25, 22.15, 23.00, 23.50, 2.05, 2.55** Австралийские золотоискатели. **0.35, 1.20** Деревенский дом. **3.40, 4.30** Короли разрушения. **5.25** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.10, 7.00, 7.50, 8.35, 9.25, 10.15, 11.00, 3.40, 4.30, 5.15** Музейные тайны. **11.50** Микромонстры с Дэвидом Аттенборо. **12.45** Удивительное семейство псовых. **13.40, 14.30, 15.20, 16.10** Величайшие мистификации в истории. **17.00, 17.30, 17.55** Родовые проклятья. **18.20, 19.10** Военные заводы. **20.00** Затерянный город гладиаторов. **21.00** Восемь дней, которые создали Рим. **21.50** Помпеи: после извержения. **23.10** Юлий Цезарь без прикрас. **0.15, 1.05** Карты убийства. **1.55, 2.50** Загадки Египта.

### NATURE

**6.10, 11.25** В поисках русского тигра. **7.05, 8.00, 13.15, 14.05** 24 часа на Земле. **8.50** Мир природы – крылатые охотники на обезьян. **9.45** Мир природы – японские макаки. **10.35** Мир природы – ирбисы. **12.25** Мир природы – очковые медведи. **15.00, 19.05** Бескрайняя Африка. **15.55, 16.40, 17.30, 18.15** Великая миграция. **20.00** Мир природы: познакомьтесь с обезьянами. **20.55** Суровая Австралия. **21.40** Невероятные встречи с животными. **22.30, 2.10, 4.15** Мутации погоды. **23.15, 23.40, 1.45** Природа в кадре. **0.10** Жуткие, настоящие и странные. **1.00** Хищные питомцы. **3.00** Ветеринар из Йоркшира. **3.45** Новорожденные в зоопарке. **5.00** Сибирская одиссея.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Широкий взгляд с Кэлом Пенном. **6.15** Игры разума. **7.00** Сборник «Игр разума». **7.45** Враждебная планета. **8.35, 9.25, 10.15, 1.05, 1.55** Осушить океан. **11.00, 11.50, 12.40, 2.45, 3.30, 4.25** «Без цензуры» с Майклом Вэйром. **13.30, 14.15, 5.15** Авто-SOS. **15.00, 15.50** Путешествия с Гордоном Рамзи. **16.35, 17.25, 18.10** Паранормальное. **19.00, 22.00, 22.50, 0.20** Космос: возможные миры. **19.45, 20.30, 21.15** Земля под рентгеном. **23.35** Первая израильская лунная миссия.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.10** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 2.40** Охота в Новом Свете. **6.55** Горная охота на колымского снежного барана. **7.25, 15.25, 23.30** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 11.55, 15.55, 19.55, 4.05** Давай зарубимся! **8.10, 12.10, 16.10, 4.20** Охоты и охотники. **8.25, 12.25, 16.25, 20.30, 4.35** Рыбалка 360. **8.55, 1.10, 5.05** Такая жизнь охота с Сергеем Бешенцевым. **9.30, 13.25, 1.40, 5.35** Фотоохота с Евгением Полонским. **10.55** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **11.25, 19.25, 3.35** Вкусные рецепты охотника. **12.55, 16.55** Охота в Удмуртии. **14.50** Горная охота на охотского снежного барана. **17.25, 21.35** Рыбалка в России. **18.55, 0.40** Мир рыболова. **20.10** Популярная охота. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.35** Донка против фидера. **23.05** Горная охота на пиренейскую серну. **0.05, 0.20** Привет, Малек! **3.00** Горная охота на тяньшанского архара.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 22.20** Легендарные братья-пекари. **6.25, 10.15, 22.50** Дачных дел мастер. **6.55, 10.50, 15.00, 19.10, 23.20, 3.20** Агротуризм. **7.25, 11.35, 19.45, 23.55, 3.50** Безопасность. **7.55, 12.05, 16.15, 20.10, 0.20, 4.15** Лучки-пучки. **8.15, 12.20, 16.30, 20.30, 0.40, 4.30** Доктор смузи. **8.25, 12.40, 16.45, 20.45, 1.00, 4.45** Занимательная флористика. **8.45, 12.55, 17.05, 21.00, 1.15, 5.00** У мангала. **9.15** Дачные радости. **11.20** Квас. **13.20, 17.35, 21.30, 1.45, 5.30** История одной культуры. **13.55, 18.10, 2.20** Большие идеи для маленького сада. **15.30** Готовим на природе. **15.45** Фитоаптека с Мариной Рыкалиной. **22.05** Вершки корешки.

# Таршэр

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці цікавую кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# Грамадства, якое кішыць шарыкавымі, – і наша з вамі сучаснае грамадства

**Героем нашага сённяшняга выпуску «Таршэра» стала Алеся Агінская (Кульша).**


Фота з архіва «РГ».

Алеся Агінская выступае ў якасці госця на фестывалі «Адна зямля» ў мінулым годзе.

Алеся кіруе тэатрам песні «Мерыдыян» Палаца культуры Маладзечна. У 2007 годзе яна ўзяла Гран-пры Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2007». У 2005 годзе стала пераможцай фестывалю «Адна зямля», сузаснавальнікам якога з'яўляецца «Рэгіянальная газета».

Вось якія любімыя творы абрала спявачка.

### Патрык Зюскінд «Парфумер. Гісторыя аднаго забойцы»

Гісторыя Жана-Батыста Грэнуя, які здзейсніў серыю зверскіх забойстваў для дасягнення запаветнай мары – стварэння парфумы кахання. Мяне гэта кніга, умоўна кажучы, накрыла. Чамусьці было шкада галоўнага героя, нягледзячы на тое, што ён быў злачынцам.

Соцыум яго не прыняў, калі той знаходзіўся яшчэ ў чэраве ў маці. Ён не ведаў кахання і спрабаваў яго знайсці. Гэта трэба чытаць. Я і фільм глядзела, таксама спадабаўся, але там не было таксама дакладнага апісання пачуццяў героя, як у кнізе.

### Джордж Оруэл «Двор для жывёлы»

Оруэл – майстар антыўтопіі. Гэта казка, у якой у алегарычных вобразах паказанае грамадства, дакладней, двор для жывёлы. У ім прыгнечаныя чалавекам жывёлы пад камандаваннем завадатара здзяйсняюць рэвалюцыю, зрынуўшы «уладу і свавольства» чалавека. Пачынаюць ствараць сваё грамадства роўных, з запаведзямі і правамі для ўсіх.

Што з гэтага выйшла, можна было здагадацца адразу, як толькі аформілася ідэя такога грамадства. У гэтым няма асаблівай інтрыгі. Але вось тое, як аўтар усё паказаў, усе крокі, па якіх ішла і сама рэвалюцыя, і далей будавалася «грамадства роўных», – вельмі цікава. Аматарам антыўтопіі і ўвогуле стылю Оруэла, безумоўна, рэкамендую гэты твор для прачытання.

### Франц Кафка «Замак»

Складаны пісьменнік, пісьменнік не для ўсіх. Але мне падабаюцца яго творы. Яны прасякнутыя дэпрэсіўнасцю, безвыходнасцю, поўныя абсурду. На жаль, раман застаўся нясконченым. Кніга трымае ў напружанні, прымушае задумацца, аналізаваць і разважаць. Хочацца парэкамендаваць аўтара ўсім і кожнаму, але разумею, што творы могуць камусьці не спадабацца. І ўсё ж скажу, што варта паспрабаваць.

### Міхаіл Булгакаў «Сабачае сэрца»

У гэтым творы адлюстроўваецца светапогляд інтэлігенцыі ў перыяды гістарычнага злому і таталітарнага рэжыму. Кніга дапамагае задумацца, высмейваючы і тагачасную інтэлігенцыю, і савецкае грамадства, якое кішыць Шарыкавымі. У прынцыпе, гэта і наша з вамі сучаснае грамадства.

### Спектакль «Пансіён Belvedere»

Яго прэзентавалі ў Беларускім дзяржаўным тэатры лялек. Рэжысёр-пастаноўшчык Матэа Сп'яцы (Італія), мастак-пастаноўшчык – лаўрэат Нацыянальнай тэатральнай прэміі Таццяна Нярсісян. Персанажы спектакля – пажылыя людзі, чыё жыццё падыходзіць да свайго заходу. Гэта ўніверсальная гісторыя пра самае галоўнае, расказаная без лішніх слоў. Дакладней, зусім без слоў.

Выдатны спектакль, кранае да слёз. Разам з тым пакідае надзею, абуджае чалавечае ў душы. Выдатная музыка. Ігра акцёраў надзвычай прыгожая. І гэта пры тым, што не вымаўлена ніводнай рэплікі!

### Фільм «Бляшаны барабан»

Кіно рэжысёра Фолькер Шлёндарфа наўрад ці спадабаецца фанатам сучасных тэлесерыялаў, але на мяне зрабіла вельмі неадназначнае ўражанне. Рэжысёр змог паказаць свет праз прызму спецыфічнага ўспрымання дзіцяці, якое ў тры гады прымае для сябе рашэнне больш не расці.

Узаемадзеянне незвычайнага героя фільма з жорсткім светам на працягу сямнаццаці гадоў наўрад ці зможа пакінуць каго-небудзь абыякавым. Раю паглядзець, лепш без дзяцей. Там шмат гвалту.

### «Сага. Змярканне»

Прыгожая казка пра каханне рэжысёра Біла Кондана. З ашаламляльнымі краявідамі, прыемным грымам, прыгожай музыкай Картэра Барвеля і, вядома, любімыя акцёры. Думаю, не адной мне гэты фільм спадабаўся.

### Музыка

Пяройдзем да музычных твораў. Магу адзначыць песенную творчасць Аляксея Чумакова, музычны стыль джаза і лаціны ў папулярнай музыцы, вельмі гарманічна прамалёўваюцца і закранаюць усе глыбокія струны маёй душы.

### «Summertime»

Адзін з улюбёных музычных твораў – «Summertime» кампазітара Джорджа Гершвіна. Класічны джаз заўсёды натхняе.

### NIZKIZ

Так як маё жыццё музычнае, я яшчэ вельмі люблю рок і хацела б адзначыць выдатны беларускі гурт NIZKIZ, а асабліва песні «Спойлер», «Выбірай», «Небяспечна». Увогуле, усе песні з сэнсам і выдатнай мелодыкай і стылістыкай, таксама як і прыгожыя артысты ў ёй.

Мне пашчасціла быць на сольным канцэрце ў гэтых выканаўцаў у Мінску, дзе яны сабралі больш за 3000 гледачоў і ніводны не сядзеў. Усе танцавалі і спявалі разам з групай. Ганаруся, што ў гурце іграе на бас-гітары мой брат Сяржук.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Станцыя Вілейка і вілейскі касцёл

## Як выглядалі гэтыя пабудовы сто год


Фота Настассі УТКІНАЙ і з фондаў ЦГАКФФД СПб.

Злева – сучасны выгляд перона вілейскай станцыі, справа – 113-ы пяхотны старарускі полк у чаканні прыезду царскага цягніка на пероне станцыі Вілейка 23 снежня 1915 года.

*Працяг.*
*Пачатак у №20.*

**У мінулым нумары мы расказвалі пра вуліцы Аляксандраўская і Пушкінская, а таксама паказвалі, як яны выглядалі сто гадоў таму і ў сучаснасці. У гэты раз «Рэгіянальная газета» расказвае і паказвае, як выглядалі вілейскі вакзал і касцёл на пачатку 20 стагоддзя.**

### Будынак вакзала і іншыя будынкі на станцыі Вілейка

Будаўніцтва чыгункі пачалося ў другой палове 1903 года і працягвалася да 1 студзеня 1907-га, калі прайшоў першы цягнік. У выніку пабудавалі станцыю чацвертага разраду з буфетам, пасажырскую платформу і вадакачку.

Пасля вызвалення Вілейкі ў снежні 1915 года на станцыю Вілейка прыбыў цягнік галоўнакамандуючага рускай арміяй імператара Мікалая II. Гэты прыезд быў дакументальна зафіксаваны, захаваўся шмат фотаздымкаў.

На некаторых з іх добра бачныя разбурэнні, якія былі на будынку вакзала (забітыя вокны, сляды ад пажару, іншыя). Цікава адзначыць і той факт, што на фотаздымках аднаўленага вакзала бачныя замураваныя вокны на бакавых сценах будынка.

На станцыі Вілейка пацярпела і воданапорная вежа. На ёй падчас бою ў верасні 1915 года размяшчаліся артылерыйскія назіральнікі, якія карэктавалі агонь сваіх гармат. Не дзіўна, што па вежы вяла агонь варожая артылерыя і дах яе быў разбураны. Але ўжо на фотаздымках 1916 года відаць, што дах аднавілі, хоць і ў моцна спрошчаным выглядзе.

На фотаздымках 1920-1930-х гадоў воданапорная вежа на станцыі Вілейка ўжо вельмі адрозніваецца ў дэталях. Хутчэй за ўсё, яна частково або цалкам была разбураная ў ходзе савецка-польскай вайны 1919-1920 гадоў, а аднавілі яе польскай адміністрацыяй на пачатку 1920-х гадоў. У такім выглядзе захавалася да нашага часу.

### Крыжаўзвіжанскі касцёл

У 1906 годзе быў атрыманы дазвол на будаўніцтва каменнага каталіцкага храма ў Вілейцы. У 1907 годзе заклалі першы камень новага касцёла. Будаўніцтва завяршылі ў 1913 годзе, у тым жа годзе касцёл асвечаны ў імя Узвышэння Святога Крыжа. Храм пабудавалі з цэглы, архітэктура спалучае рысы неаготыкі і неарамантызму.


Фота Берні БЕРМАНА з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея.

На фатаграфіі касцёл з прыкметнымі разбурэннямі вежы. Зіма 1918 года.


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Так выглядае вілейскі касцёл у маі 2020 года.

У ходзе бою за горад у касцёл трапіла некалькі артылерыйскіх снарадаў. Аб тым, што трапіў адзін снарад і яго наступствах, ёсць згадка ў архіўным дакументах. У «Часопісе ваенных дзеянняў 178-га пяхотнага Вендзенскага палка ад 1 да 30 верасня 1915 года» ёсць апісанне пахавання прапаршчыка **Васіля Гаўрылавіча Нарваткіна** з гэтага палка.

«...Прапаршчык Нарваткін сканаў і быў пахаваны ў горадзе Вілейка на могілках. Пахаванне было з музыкай, падчас пахавання горад моцна абстрэльвалі артылерыяй, адзін снарад трапіў у звон касцёла, забіў аднаго артылерыйскага назіральніка і ледзь не перабіў усіх прысутных на пахаванні».

На адной з фатаграфій ёсць касцёл, у даху вежы якога добра бачныя пашкоджанні менавіта ад гэтага снарада.

Таксама на гэтых фотаздымках добра бачна, што адна з чатырох малых вежаў вакол шпіля на галоўнай вежы будынка была знішчаная артылерыйскім снарадам. Але на фотаздымках 1918 года гэту вежу ўжо аднавілі, а таксама заладзілі вялікую выбоіну на галоўнай вежы.

Касцёл Узвышэння Святога Крыжа захаваўся да нашых дзён.

**Падрыхтавала**
**Настасся УТКІНА**
**па матэрыялах**
**Андрэя КАРКОТКІ,**
**дабрачынны**
**культурна-гістарычны**
**фонд памяці**
**Першай сусветнай вайны**
**«Крокі».**

*Заканчэнне будзе.*

# таму і якія яны цяпер



Фота з калекцыі Уладзіміра ЛІХАДЗЕДАВА.

Від на перон і вакзал на станцыі Вілейка. Фота невядомага нямецкага салдата. Люты-сакавік 1918 года.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Так выглядаюць у 2020 годзе перон і вакзал у Вілейцы.



Фота Беркі БЕРМАНА з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея.

Від на станцыю Вілейка. Зіма 1918 года.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Сучасны ракурс на станцыю і воданапорную вежу.



Фота krokiww1.by.

Станцыя Вілейка ў 1918 годзе. Фота невядомага нямецкага салдата.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Сучасны ракурс вілейскай станцыі па здымку нямецкага салдата.



Фота з альбома Платона АЛЯКСЕЕВА з фондаў РОСФОТО.

На фатаграфіі касцёл з паўднёвага боку, з прыкметнымі разбурэннямі ў сценах будынка. 29 верасня 1915 года.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Касцёл ужо без разбурэнняў у наш час.

# 600 сталых жыхароў навучылі



Каардынатар ініцыятывы «Разам да здароўя» Святлана Бурко.

**Як правільна мераць ціск, узровень цукру і якую першую медыцынскую дапамогу можна аказаць, пакуль едзе «хуткая дапамога»? Усе гэтыя пытанні асабліва актуальныя для людзей сталага ўзросту. Таму менавіта для іх на Смаргоншчыне рэалізавалі праект «Разам да здароўя».**

СМАРГОНЬ

У час пандэміі гэтыя веды асабліва важныя. Гэта заўважна аблягчае працу медыкам. А для саміх сталых людзей дапамагае захоўваць бяспеку і пазбягаць лішніх кантактаў. Карысць праекта яшчэ раз змаглі ацаніць у час пандэміі.

Каардынатар ініцыятывы **Святлана Бурко** са свайго досведу ведае, наколькі гэта актуальныя пытанні для людзей ва ўзросце, асабліва ў вёсках. Жанчына працавала ў тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва і бачыла патрэбу ў ведах аб здароўі для падапечных.

Таму вырашыла паспрабаваць і падала заяўку ў межах конкурсу ініцыятыў праекта Еўрасаюза «Прафілактыка неінфекцыйных захворванняў, прасоўванне здаровага ладу жыцця і падтрымка мадэрнізацыі сістэмы аховы здароўя ў Рэспубліцы Беларусь» (БЕЛМЕД). Заяўка прайшла конкурс, і ўдзельнікі пачалі працу. Ініцыятыву рэалізавалі ў 2018-2019 гадах, але карысць ад зробленага па-сапраўднаму можна ацаніць цяпер.

> **– Кажуць, калі рэалізаваў ініцыятыву ў межах праекта БЕЛМЕД, то ўжо пад сілу любы праект, – расказвае каардынатар.**

– Тут патрабуецца дакладная справаздачнасць, акуратнасць у дакументах. Нас усяму вучылі, дапамагалі, таму хоць і патрабавалася папрацаваць, але ўсё рэальна. Не маючы ніякага досведу, рэалізавала ініцыятыву, нават запрашалі пасля выступаць у якасці эксперта.

## Пра што ініцыятыва

«Разам да здароўя» – комплексная праграма, у якую ўваходзіла некалькі складнікаў. Ініцыявала праграму Смаргонская раённая арганізацыя Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў. Галоўнай задачай арганізатары паставілі прафілактыку неінфекцыйных захворванняў у жыхароў вёсак.

У першым блоку ініцыятывы дактары вучылі сацыяльных работнікаў і актыўных жыхароў Сінькоўскага, Залескага і Жодзішкаўскага сельсаветаў. У межах гэтай часткі на навучальных семінарах прайшлі навучанне 66 чалавек. Усе яны вучыліся аказваць медыцынскую дапамогу не толькі сабе, але і іншым. Сярод гэтых удзельнікаў былі тыя, да каго ў вёсках часта звяртаюцца па дапамогу.

> **Дзякуючы навучанню яны сталі памочнікамі для мясцовых жыхароў у тым, каб быць больш здаровымі.**

## Вучылі дапамагаць і сабе, і іншым

Удзельнікам расказалі, чаму важна трымацца здаровага ладу жыцця і як канкрэтна трымацца гэтых прынцыпаў. Сацыяльныя работнікі і актывісты даведаліся пра адну з папулярных хвароб сярод сталых людзей – артэрыяльную гіпертэнзію. Атрымалі веды, як распазнаць захворванне і лячыць яго, а таксама навучыліся аказваць першую дапамогу.

Таксама ўдзельнікам падрабязна расказалі пра цукровы дыябет – першую дапамогу, харчаванне, актыўнасць і прафілактыку хваробы.

Каб удзельнікі маглі эфектыўна дапамагаць мясцовым жыхарам, ім раздалі танометры і глюкометры з тэст-палоскамі і ланцэтамі. На занятках вучылі правільна карыстацца прыборамі. Затое цяпер удзельнікі могуць адсочваць і свой стан, і сваіх аднавяскоўцаў.

## Вучылі здароўю

У другім блоку ініцыятывы арганізатары правялі шэраг мерапры-

# клапаціцца пра здароўе




Падчас навучальнага мерапрыемства ў аграгарадку Сінькі вучыліся правільна мераць ціск.



У межах конкурсу здаровых рэцэптаў гатуюць страву ў вёсцы Сівіца Сінькоўскага сельсавета.

емстваў для жыхароў сельскай мясцовасці, каб навучыць прафілактыцы неінфекцыйных захворванняў. Агулам навучанне ў «Школе здароўя» атрымалі 624 чалавекі.

Усе ўдзельнікі пасля заканчэння праграмы дзяліліся ўражаннямі ад ініцыятывы ў анкетах. Святлана Бурко гартае стос з анкетамі:

**– Так кранальна чытаць водгукі, столькі падзяк! «Дзякуй, што навучылі клапаціцца пра здароўе», «Такія праекты абавязкова патрэбныя ўсім», «Вялікі дзякуй за карысныя веды!». Адразу бачна, наколькі патрэбны быў наш праект.**

Каб сталыя людзі заўсёды маглі пільна сачыць за здароўем, арганізатары склалі брашуры з асноўнай інфармацыяй, якую выкладалі падчас курса. У межах праекта выдалі 17 веласіпедаў для сацыяльных работнікаў і актывістаў, а гэта надзвычай важны набытак для вяскоўцаў. Так сачыць за станам падапечных і дапамагаць нашмат прасцей і хутчэй.

Для мясцовых жыхароў дактары правялі некалькі сустрэч на наступныя тэмы: «Што мы ведаем пра артэрыяльную гіпертэнзію» і «Цукровы дыябет другога тыпу».

За медыцынскую дакладнасць у праекце адказвалі загадчык Смаргонскай раённай паліклінікі доктар-тэрапеўт **Ганна Пешкур**, загадчык тэрапеўтычнага аддзялення паліклінікі **Алена Грынчык** і доктар-тэрапеўт **Любоў Смірнова**. Гэта дасведчаныя дактары з заслужаным аўтарытэтам, якія да таго ж умеюць расказваць пра складаныя медыцынскія рэчы даходліва для кожнага.

Каб замацаваць веды аб здаровым харчаванні, у дамах сацыяльных паслуг у вёсках Вялікая Мыса, Сівіца і Міхнічы зладзілі конкурсы здаровых рэцэптаў.

Як адзначалі ўдзельнікі праекта, мерапрыемствы былі не толькі карыснымі, але і далі магчымасць кантактаваць з вялікай колькасцю людзей. Часам для сталых людзей у вёсцы гэта не менш важна, чым умець мераць ціск.

### Шчаслівая, што гэта зрабіла

Каардынатар ініцыятывы «Разам да здароўя» Святлана Бурко падзялілася, чым стаў праект асабіста для яе:

**– Я вельмі шчаслівая, што змагла рэалізаваць ініцыятыву. Яна вельмі патрэбная, і чым больш будзе падобных праектаў, тым лепш.**

А бачыць удзячныя вочы сталых людзей проста бясцэнна!




Фота забяспечана Святланай БУРКО.

У межах ініцыятывы на Смаргоншчыне правялі шэраг мерапрыемстваў, на якіх вучылі сачыць за здароўем.

**Загадчык Смаргонскай раённай паліклінікі доктар-тэрапеўт Ганна Пешкур пракаментавала важнасць праекта:**

– Канешне, чалавеку трэба ведаць пра сваё здароўе. Патрэбная дапамога медыцынскага работніка, каб правільна інтэрпрэтаваць паказчыкі, каб расказаць, як захоўваць здароўе. З задавальненнем адгукнулася на прапанову ўдзельнічаць у праекце. Пацыенты слухалі, запаўнялі дзённікі, выконвалі заданні. Навучылі многіх людзей, як сябе паводзіць у экстрэмальных сітуацыях. Даведаліся, што пры гіпертанічным крызе не трэба рэзка зніжаць ціск. У праекце разглядалі хваробы, на якія пакутуюць многія. Распрацоўвалі дыеты з улікам мясцовасці, дзе людзі жывуць. Вучылі, як захоўваць фізічную актыўнасць, калі праходзіць маладосць.

Важна, што людзі даведаліся, як аказваць першую дапамогу самастойна. Да далёкіх ад райцэнтра населеных пунктаў «хуткая дапамога» можа дабірацца хвілін 40. А для экстраннай дапамогі вельмі важныя першыя хвіліны.

Расказвалі, якія прэпараты могуць прыняць самі або парэкамендаваць суседцы да прыезду «хуткай». А страчаны час не вярнуць. Вучылі элементарным спосабам, як аказаць першую дапамогу, бо многія дзеянні нескладаныя, але іх баяцца рабіць. Лічу, што такія праекты павінны працягвацца. Чым больш людзі будуць навучаны, тым больш здаровым будзе насельніцтва.

**Стараста вёскі Сукневічы Залескага сельсавета Таццяна Шатраўская ўдзельнічала ў праграме як актывіст. Яна з удзячнасцю адгукаецца:**

– Было і карысна, і цікава! Даведалася, як правільна карыстацца танометрам, глюкометрам, весці здаровы лад жыцця, правільна харчавацца. Вучылі, як распазнаць прыкметы інсульту, інфаркту. І заняткі прыходзілі вельмі цікава. У вёсцы сталыя жыхары цяпер просяць памераць ціск або цукар. Магу аказаць першую медыцынскую дапамогу. Пры высокім ціску даць правільны медыкамент. Святлана Бурко вялікая малайчына, што арганізавала для нас такое.

*Ініцыятыва «Разам да здароўя» рэалізаваная ў межах праекта «Прафілактыка неінфекцыйных захворванняў, прасоўванне здаровага ладу жыцця і падтрымка мадэрнізацыі сістэмы аховы здароўя ў Рэспубліцы Беларусь» (БЕЛМЕД), які фінансуецца Еўрапейскім саюзам і рэалізуецца ПРААН, СААЗ, ЮНІСЭФ і ЮНФПА у партнёрстве з Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*



Падрыхтавала
Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Іваноў і Усціненка далі паказанні па справе аб дамоўных матчах

**У сераду, 13 мая, адбылося трэцяе слуханне справы па дамоўным матчы маладзечанскіх хакеістаў. У гэты раз суддзя, пракурор, адвакаты і журналісты пазнаёміліся з паказаннямі Мікіты Усціненкі і Аляксея Іванова.**



Іваноў і Усціненка прызналіся, што раскайваюцца ва ўдзеле ў дамоўнай гульні.

Фота прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».

«Трибуна» паведаміла, што разбіральніцтва па дамоўным матчы працягнецца яшчэ не менш за месяц, а ў хуткім часе пачнецца допыт сведак. Наступнае пасяджэнне на момант падрыхтоўкі газетнага нумара мелася быць 20 мая.

### Аляксей Іваноў

Першага на трэцім пасяджэнні допытвалі экс-варатара «Маладзечна» расіяніна Аляксея Іванова.

Ён расказаў, што хакеем займаецца 14 гадоў. З іншымі абвінавачанымі пазнаёміўся ў чэрвені 2019 года, калі перайшоў у «Дынама-Маладзечна», адносіны з імі былі чыста рабочыя і за межы распранальні не выходзілі.

– Прыкладна за два-два з паловай тыдні да матча ў мяне адбылася размова з Шэлегам. Ён падышоў да мяне і сказаў, што трэба нешта рабіць. Спытаў, ці ёсць выхад на патрэбных людзей. Я сказаў, што не. А праз нейкі час патэлефанавалі невядомыя і сказалі, што ведаюць сітуацыю ў клубе, ведаюць аб нашых праблемах, прапанавалі пагутарыць у інтэрнэце. Сказалі, што трэба сабраць кампанію і яны гатовыя заплаціць за праіграны матч. Паабяцалі 250 тысяч расійскіх рублёў. Праз нейкі час я перадаў гэту інфармацыю **Шэлегу**. Што ён адказаў? Што трэба падумаць. Мы яшчэ разы два з ім размаўлялі наконт гэтага пытання. Вырашылі спыніць зносіны з гэтымі людзьмі. Чаму? Яны настойвалі, патрабавалі, каб мы ўсё вырашылі хутчэй. Я сказаў, што не хачу нічога арганізоўваць і ўдзельнічаць.

За два-тры дні да гульні да Іванова падышоў Шэлег і сказаў, што ёсць варыянт у **Сырэя**. Ёсць людзі, якія могуць заплаціць. Па-мойму, я пагадзіўся.

За дзень да гульні стварылі групу ў «Тэлеграме». Туды ўваходзілі Іваноў, Сырэй, Шэлег, **Баярчук**, **Кучкін**, **Лісічкін**. Па словах Іванова, ён не чытаў, што там пісалі, проста пагледзеў склад удзельнікаў. А ў дзень гульні ў яго не было магчымасці зайсці ў інтэрнэт, бо не было грошай на тэлефоне.

**Іваноў сказаў, што за дамоўны матч кожнаму абяцалі па 700 долараў.**

У дзень матча раніцай трэнер варатароў **Віталь Коваль** сказаў, што Іваноў не будзе гуляць з «Магілёвам».

– З-за таго, што я расіянін, ёсць ліміт па гульнявым часе для легіянераў – не больш за 50 працэнтаў матчаў. А я ўжо да гэтага правёў нямала паядынкаў. І пра гэта сказаў у распранальні. За 30 хвілін да трэніроўкі да мяне падышоў трэнерскі штаб, сказалі, што ўвечары мне, можа, прыйдзецца сядзець на лаўцы. Вярнуўся дадому. Потым за дзве гадзіны да гульні прыйшоў на каток. Падышоў Коваль і сказаў, што, магчыма, буду гуляць. Перад раскаткай ён сказаў, што я пачну матч.

У матчы з «Магілёвам» Іваноў згуляў увесь матч. Чаму ён не сядзеў на лаўцы з-за легіянерскага ліміту, хакеіст не ведае.

Расказаў Іваноў, што рабіў для таго, каб «здаць» матч. Па яго словах, гуляў горш і пасіўна. Сказаў, што прапушчаныя шайбы мог адбіць. Пасля матча, па словах, з удзельнікамі змовы ён не размаўляў. Ён не ведае, як павінны аддаць грошы за дамоўны матч.

– На наступны дзень кіраўніцтва клуба сказала, што прыйшоў дырэктар і заявіў: «Усё, дагуляліся, заведзеная крымінальная справа». Начальнік каманды дадаў, што ўсе ўсё ведаюць. З гульцамі мы дамовіліся казаць, што праігралі, таму што так атрымалася.

Цяпер Іваноў нідзе не працуе, у Беларусі не змог уладкавацца. Ён мог працягнуць кар'еру ў наваполацкім «Хіміку», але федэрацыя ўвяла абмежаванні.

### Мікіта Усціненка

Па словах Усціненкі, Сырэй за дзень да матча сказаў яму, што можна зарабіць, калі матч з «Магілёвам» яны прайграюць. Усціненка расказаў, што былі пытанні да кіраўніцтва маладзечанскага клуба, якое не плаціла заробкі. Хакеіст таксама ўдакладніў, што размаўлялі з усімі ўдзельнікамі змовы праз «Тэлеграм».

– 12 лістапада Сырэй заявіў, што ўсё адмяняецца і трэба гуляць у поўную сілу. Але перад матчам ён даў новыя рэкамендацыі: задача змянілася і трэба ўсё-ткі прайграць.

Як успамінаў Усціненка, добра на пляцоўцы дзейнічалі тыя, хто не ведаў пра змову. Кучкін закінуў шайбу, хоць і быў у курсе змовы.

– Што тычыцца ў цэлым маёй гульні, то, як мне здаецца, паражэнне ў гэтым матчы было забяспечанае без майго ўдзелу. Зразумела, я не моцна стараўся, быў пасіўны, але калі мы прапускалі шайбу, то ў гэтых эпізодах не ўдзельнічаў.

Хакеіст сказаў, што пасля матча ўзніклі падазрэнні ў **Пячуры**. Той абвінавачваў Сырэя аб здачы гульні. Ён пытаўся, колькі той атрымаў грошай. Пячура быў перакананы, што гульня была дамоўная.

**– У СМІ з'явіліся матэрыялы пра «дзіўны матч», зразумеў: схаваць нічога не атрымаецца. Мы з астатнімі ўдзельнікамі дамовіліся казаць на допытах, што прайгралі самі, што ўсё сумленна. Я баяўся адказнасці.**

На наступны дзень пасля той гульні маладзечанская каманда сустрэлася з дырэктарам клуба.

– Ён сказаў, што па распараджэнні прэзідэнта праваахоўныя органы пачалі праверку па факце дамоўнага матча. Усё вельмі сур'ёзна, нам трэба самім пра ўсё расказаць. Таму што ўсё роўна даведаюцца, усе будуць абвінавачаныя. Я прамаўчаў.

15 лістапада Усціненка паведаміў Сырэю, што грошы за дамоўную гульню браць не будзе. Потым прыехалі прадстаўнікі праваахоўных органаў. Яны назвалі прозвішчы тых, хто павінны праехаць з імі. Усціненку не назвалі, а сам ён не прызнаўся.

17 лістапада Сырэй расказаў Усціненку, што міліцыя ведае ўсіх, хто мае дачыненне да дамоўнага матча. Пасля гульца павезлі на допыт у Мінск. Там яму сказалі, што павязуць у Следчы камітэт даваць паказанні, дзе Усціненка ўсё і расказаў.

На судзе Усціненка сказаў, што раскайваецца і гатовы панесці пакаранне.

– Разумею, што сам сябе падставіў. Думаў, што наперадзе ў мяне доўгая кар'ера, тым больш гулец нацыянальнай зборнай. Прашу не пазбаўляць мяне магчымасці гуляць у хакей, бо гэта ўсё, што я ўмею. Лічу, што ў хакеі магу прынесці карысць Беларусі. Цалкам прызнаю сваю віну, раскайваюся ў зробленым, дапамагаў праваахоўным органам у расследаванні. Прашу ўлічыць маю бездакорную працяглую кар'еру. Тым больш, на мяне і так накладзенае пакаранне ад федэрацыі – 300 базавых велічынь і дыскваліфікацыя на год.

**У адрозненне ад Іванова, які цяпер далёкі ад хакея, Усціненка ў родным Гомелі дапамагае парадамі дзіцячым трэнерам і назірае за трэніроўкамі маладых хакеістаў.**

Пра распаўсюджанне парнаграфіі ўсе абвінавачаныя далі адзіныя адказы: не ведалі, што гэта крымінальна караецца, перасылалі дзеля прыколу і ўзняцца настрою. А цяпер зразумелі, што здзейснілі памылку, і раскайваюцца.

**Настасся УТКІНА**
**па матэрыялах by.tribuna.com.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Краіна, прадстаўнік якой летась выйграў у фінале «Еўрабачання».
4. Знак задыяка, які маюць народжаныя ў першай палове лютага.
5. Даўгаўпілс, або Дынабург па-беларуску.
7. Слабаалкагольны напой усходніх славян з мёду, спецый і зёлак.
9. У воды гэтай ракі глядзіць палац Румянцавых-Паскевічаў.
10. Назва краіны Таджыкістан паходзіць з перскай мовы, дзе «стан» азначае «краіна», а «тадж» — ... .
15. Харвацкая грашовая адзінка, якая складаецца са 100 ліп.
16. Самая маленькая птушка Беларусі.
17. За адкрыццё гэтага рэчыва мікрабіёлаг Аляксандр Флемінг атрымаў Нобелеўскую прэмію.
18. Кветка, назва якой у перакладзе з грэчаскай азначае «зорка».
19. Традыцыйны убор шатландскага мужчыны.
21. Фінскі народны эпас, які ў 2015 годзе пераклаў на беларускую мову Якуб Лапатка.
22. Сучасны японскі пісьменнік, аўтар кніг «Нарвежскі лес» і «Хронікі завадной птушкі».
23. Пад нумарам «24» у беларускай хакейнай зборнай ніколі не зможа згуляць ніводны спартсмен, паколькі Беларуская федэрацыя хакея замацавала яго за гэтым хакеістам.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Аповесць Міхася Чарота, па матывах якой быў зняты фільм «Лясная быль».
2. Здольнасць чалавека суперажываць эмацыйнаму стану іншага.
6. Паганскі бог жывёлагадоўлі і багацця.
8. «Ляцеў птах цераз дах, сеў на варотах у чырвоных ботах».
11. Музычны жанр родам з Лацінскай Амерыкі.
12. Дрэва, з якога выразаецца традыцыйны кубак народаў Лапландыі – кукса.
13. Музычны гурт, лідарам якога з'яўляецца Іван Кірчук.
14. Аграгарадок, на могілках якога пахаваны Францішак Багушэвіч.
15. Малочны прадукт, які ў Турцыі традыцыйна падаецца на сняданак разам з хлебам і мёдам.
16. Тканіна, якую выкарыстоўваюць для вышыўкі.
20. Эскалатар без прыступак.
21. Парода коней, якіх летась прывезлі ў Налібоцкую пушчу.
22. Тое, што дапамагае чалавеку з траўмай утрымліваць вагу падчас перамяшчэння.

## Адказы на крыжаванку з №20

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Каніфоль. 4. Шакалад. 5. Зброя. 6. Мегаліты. 7. Шапка. 9. Віраж. 11. Забойства. 14. Цікавы. 15. Вантроба. 16. Руанда. 17. Зігзаг. 18. Шклянка. 22. Вакал. 24. Ацэнка. 26. Гадзіннік.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Рэформа. 3. Вавёрка. 8. Афіцыянт. 10. Вагі. 12. Рэсурсы. 13. Завушніца. 19. Аўтограф. 20. Забарона. 21. Шафа. 23. Аргумент. 24. Акадэмія. 25. Ахвота. 27. Хірасіма. 28. Нарач.

● ГАРАСКОП

## 22 мая – Міжнародны дзень біялагічнай разнастайнасці. Які гадаванец найбольш падышоў бы вам?



**АВЕН.** Для вас выдатна падыдзе сур'ёзны звер. Гэта можа быць вялікі сабака – даберман або нават аўчарка. У вас выдатна атрымаецца выхаваць гадаванца. І для вас, і для яго гэта будзе сапраўднае сяброўства.



**ЦЯЛЕЦ.** Ваш рытм жыцця не дазваляе завесці гадаванца, які будзе патрабаваць шмат увагі. Лепшым варыянтам будзе расліна, прычым варта прыглядзецца да экзатычных кветак. Добрым гаспадаром вы станеце для розных марскіх экзатычных істот.



**БЛІЗНЯТЫ.** Для вас сапраўдным сябрам стане птушка. Гэта можа быць папугай або больш экзатычны варыянт, напрыклад, крумкач. Вы з задавальненнем будзеце вучыць яго размаўляць і атрымаеце шмат пазітыву ад такога сябра.



**РАК.** Вам у задавальненне займацца нават самымі патрабавальнымі жывёламі. Агульную мову знойдзеце з жывёламі з поўсцю, якіх прыемна прытуліць да сябе. Але і самыя экзатычныя экспанаты будуць жыць з камфортам, а вы атрымліваць задавальненне.



**ЛЕЎ.** Вы не зможаце ўжыцца з жывёлай, калі не палюбіце яе. Калі ж звер расчуліць ваша сэрца, то застанецца там назаўсёды. Вам хочацца, каб гадаванец ахвотна ішоў на рукі і ласціўся. Вы любіце заўважаць характар і індывідуальнасць кожнай істоты.



**ДЗЕВА.** Вам важна, каб жывёла была чысцёхай. Таму будзе цяжкавата з грызунамі. Вам прыйдзецца даспадобы акварыум з прыгожымі рыбкамі або тэрарыум з ігуанамі або хамелеонамі.



**ШАЛІ.** Вы схільныя да незвычайных гадаванцаў. Спадабаюцца вавёрачкі, шыншылы, марскія свінкі. Жывёлы, якім патрэбная сур'ёзная дрэсіроўка, наўрад ці змогуць вас парадаваць.



**СКАРПІЁН.** Вы схільныя да экзатычных жывёл. Павукі, удавы, мурашы – гэта ўсё вашы варыянты. А некаторым важна не тое, што за жывёла стане гадаванцам, а якія пачуцці яна выкліча пры знаёмстве.



**СТРАЛЕЦ.** У вас касмічная сувязь з конямі. Нават калі няма магчымасці гадаваць самому, вы з вялікім задавальненнем адпраўляецеся на конныя прагулкі. Такі адпачынак можа стаць для вас не толькі прыемным, але і гаючым.



**КАЗЯРОГ.** Вы не тое, каб прывязваецеся да гадаванца, хутчэй, ён нешта расказвае пра вас. Менавіта тое, што вы хацелі б паказаць. Калі гэта экзатычная жывёла – то вашу неардынарнасць. Калі сельскагаспадарчая – то гаспадарлівасць.



**ВАДАЛЕЙ.** Вам важна, каб жывёла выклікала ў вас замілаванне, а іншыя захапляліся яе прыгажосцю. Вы рады песціць гадаванца, для вас гэта член сям'і. Не па душы вам хіба што грызуны.



**РЫБЫ.** Вы станеце выдатным гаспадаром для катоў, сабак, птушак, рыбак. Хіба што вельмі экзатычныя жывёлы – не зусім ваша. Час з гадаванцам для вас адпачынак і расслабленне.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 8 | 1 | | 7 | |
| | 6 | | | | | 1 | | |
| 7 | | | | 9 | | | 2 | 5 |
| | 8 | | 7 | 4 | | | 6 | |
| | 2 | 6 | 9 | | | | 3 | |
| 4 | 7 | | | | 3 | 5 | | |
| | 9 | | 1 | 3 | | | | |
| | | | 4 | 5 | | 8 | | |
| 2 | | | | | | | 9 | 3 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by



● #РГ25

## Васіль Таркан, кіраўнік Маладзечанскай раённай арганізацыі Беларускага таварыства інвалідаў: «Газета як зорачка свеціць дабром і надзеяй»

**28 красавіка «Рэгіянальная газета» адзначыла 25-годдзе. Рэдакцыя прымае віншаванні ад маладзечанца і кіраўніка раённай арганізацыі «Беларускага таварыства інвалідаў» Васіля Таркана.**

– Дарагі Аляксандр Барысавіч! Прыміце нашы шчырыя віншаванні ў сувязі з юбілеем.

Ваша газета як зорачка свеціць дабром і надзеяй. Гістарычная праўда нашай Бацькаўшчыны, лепшыя сыны Айчыны, якія жылі, змагаліся, працавалі і сёння адраджаюць і праслаўляюць наш край – гэта цудоўна!

*Хай гадочкі ляцяць!*
*Ды газета твая*
*не сціхае між нас,*
*Праз іх тваю дабрыню*
*мы заўжды ўспамінаем.*
*Ты як лесвічка наш,*
*што вядзе на Парнас.*
*Дык жывi i красуйся,*
*газета родная,*
*Што нам праўду нясе*
*і радуе нас.*


Фота Настассі УТКІНАЙ.

***

Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.

А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!

### Чытайце праз тыдзень:

- Як актывістам займацца сваёй дзейнасцю ва ўмовах пандэміі? Якія праекты магчыма ладзіць цяпер? І што за справы найбольш адгукаюцца ў сэрцы?

## 23 мая, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 1-2 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -2,3°С у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +28,3°С у 1983 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18,6 мм у 1998 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Ідзе падпіска на 2-е паўгоддзе!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

### Падпісацца на «РГ» можна:

**праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

**на пошце**

**праз паштальёна**

**праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек,
- на квартал – 14 рублёў 88 капеек,
- на паўгоддзе – 29 рублёў 76 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў,
- на квартал – 48 рублёў,
- на паўгоддзе – 96 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Калі вы апошні раз выклікалі «хуткую дапамогу»?

**Алена Шакун-Крывашэй, прадавец, Маладзечна:**
– Прыкладна год таму выклікала «хуткую дапамогу», чаму вельмі рада.



**Алена Чырыца, беспрацоўная, Маладзечна:**
– Выклікала ў тым годзе.



**Таццяна Кезік, дворнік, Маладзечна:**
– Мы ў сям'і «хуткую дапамогу» не выклікалі ўжо даўно.



**Алена Падбярэзская, бармен, Маладзечна:**
– Апошні раз выклікалі дзесьці гады тры таму.



**Іосіф Качэрга, дальнабойшчык, Княгінін Мядзельскага раёна:**
– Выклікаў медыкаў амаль чатыры гады таму.



**Вадзім Крачкоўскі, таксіст, Вілейка:**
– Сабе ніколі не выклікаў, а знаёмым ці сваякам год таму.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**








Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№21 (1308) 22.05.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 845. Падпісана ў друк у 9.00 21.05.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.